—Людзьмі звацца!
Янка Купала

ЛіМ
ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ
ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ПЯТНІЦА
17
МАЯ
1991 г.
№ 20 (3586)
ВЫХОДЗІЦЬ
з 1932 г.
КОШТ—15 кап.
(Па падпісцы — 10 кап.)

# ЧЫТАЙЦЕ


## «МЫ АСУДЖАНЫ НА СУВЕРЭНІТЭТ...»

**Гутарка з народным дэпутатам БССР Анатолем ВЯРЦІНСКІМ — напярэдадні чарговай сесіі рэспубліканскага парламента.**

СТАРОНКА 4.

## ДЗЕНЬ ДОБРЫ, МАКСІМЕ!

**Да 100-годдзя з дня нараджэння М. Багдановіча.**




СТАРОНКА 5.

## СУМЛЕННА СЛУЖЫЎ НАРОДУ

**Уладзімір МІХНЮК: «У папцы матэрыялаў аб партыйнай рэабілітацыі У. М. Ігнатоўскага з 227 машынапісных старонак 91 належыць А. І. Залескаму. Сярод таго шматстаронкавага квазінавуковага смецця часцей за ўсё сустракаюцца такія ярлыкі-характарыстыкі, як «главарь белорусского национализма», «махровый белорусский националист», «ярый монархист»...**

СТАРОНКА 13.



## ЗАГАДКА ДЛЯ НЕПАЛЬСКАГА АСТРОЛАГА

**Усесаюзны фестываль старадаўняй і сучаснай музыкі ў Полацку.**

СТАРОНКІ 10—11.

## ДУХОЎНАЯ АПАНТАНАСЦЬ

**Максім ЛУЖАНІН — пра род Гарэцкіх.**

СТАРОНКІ 14—15.

## СТАРОНКІ ЎСПАМІНАЎ:

## «ПЕСЕНЬ-ЗОР ЛІРЫЧНЕЙШЫ ПАЭТ»

**Масей СЯДНЁЎ: «Не мог перабудавацца Уладзімір Хадыка. Як яго не пераконвалі спрацісць сваю паэтычную палітру, адмовіцца ад нібыта залішняй метафорыкі, Хадыка заставаўся самім сабою. Не ішоў і на Купалаў заклік пісаць болей «ад сэрца, ад сэрца».**

СТАРОНКА 16.




**НА ЯСЕЛЬДЗЕ.** Фота А. КЛЕШЧУКА.

# НЕЗАЛЕЖНАЕ СЛУХАННЕ «ЧАРНОБЫЛЬСКАЙ СПРАВЫ»

**З 26 па 28 красавіка ў памяшканні Кіеўскага політэхнічнага інстытута праходзіла слуханне незалежнай грамадскай камісіі, створанай Украінскім рухам «Зэлэны світ», пра вынікі расследавання сапраўдных прычын чарнобыльскай катастрофы, замоўчвання праўды аб ёй і ўстанаўлення вінаватых з ліку пасадавых дзяржаўных і партыйных асоб.**

На слуханне была запрошана і дэлегацыя Магілёўскай вобласці ў складзе сарака чалавек. Сярод іх—народны дэпутат СССР, дзіцячы ўрач Слаўгарадскай раённай бальніцы З. Ткачова, дэпутаты Магілёўскага абласнога і гарадскога Саветаў, дэпутаты раённых Саветаў вобласці. У рабоце грамадскага слухання прымаў удзел старшыня Чарнобыльскай камісіі ВС СССР А. Назараў. Адкрыў слуханне народны дэпутат СССР Ю. Шчарбак. З амаль чатырохгадзінным чытаннем акта расследавання выступіў старшыня незалежнай грамадскай камісіі В. Воўчанка. Гэта была сапраўдная зацікаўленая праца, каб з дапамогай шырокай грамадскасці ўсё ж давесці да паспяховага завяршэння расследаванне і выяўленне сапраўдных прычын чарнобыльскай трагедыі, каб можна было адкрыта назваць галоўных злачынцаў, а не стрэлачнікаў.

Нельга было без душэўнай скрухі слухаць дакументы, якія сведчылі, напрыклад, што траса велагонкі Міру, якая праводзілася ў маі 1986 года, пралягала па забруджанай тэрыторыі, дзе велічыня гама-абпраменьвання была болей трох мілірэнтген у гадзіну. Аб гэтым ведалі партыйныя кіраўнікі Кіева, але тагачасны другі сакратар Кіеўскага абкома КПУ Маламуш (які, дарэчы, сёння працуе намеснікам старшыні Кіеўскага аблвыканкома) загадаў маўчаць і велагонку праводзіць, выставіўшы ўздоўж усёй трасы безліч аркестраў. Цяжкае ўражанне пакінуў ва ўсіх удзельнікаў слухання ліст былога галоўнага інжынера Чарнобыльскай АЭС Палякова (ён вымушаны быў пакінуць сваю пасаду за два гады да катастрофы). Палякоў піша ў сваім лісце, што на працягу доўгага часу паслядоўна звяртаўся ва ўсе інстанцыі з папярэджаннямі аб магчымасці цяжкай аварыі, бо з моманту праектавання Чарнобыльскай АЭС і пазней сур'ёзна не разглядаліся захады па прадухіленні аварыйных сітуацый. Акадэмік Аляксандраў у той час запэўніў Палітбюро і Урад, што рэактары РБМК-1000 самыя надзейныя ў свеце, і верагоднасць аварыі на іх недзе каля нуля, таму «бязглуздзіца» закладваць у праект дадатковыя мільёны на непатрэбныя залішнія меры перасцярогі. На папярэджанні галоўнага інжынера АЭС ніхто не звярнуў увагі, і ён свядома пакінуў пасаду.

Удзельнікі слухання даведаліся, што цалкам пакрытая шчыльнай сакрэтнасцю катастрофа пад Чэлябінскам (г. Кыштым) у 1957 годзе выкінула на плошчу 30х40 кіламетраў радыеактыўных рэчываў у 50 разоў болей, чым выкінуў чарнобыльскі рэактар!

І пасля гэтага мы чуем з самых высокіх урадавых інстанцый, што ўсе тыя памылкі (ці памылкі?), што былі зроблены пасля 26 красавіка 1986 г.,— гэта вынік адсутнасці ў нас вопыту, бо раней нічога падобнага ў свеце не здаралася!

Былі заслуханы дзесяткі сведак, якія прывялі прыклады на карысць таго, што выбух на чацвёртым блоку атамнага рэактара і хаванне ад народа праўды пра памеры катастрофы і страшэнную небяспеку для мільёнаў людзей (бо катастрофа прадаўжаецца — прадукты харчавання, атрыманыя на забруджаных землях, ужываюць у ежу мільёны людзей, якіх не накрыла чарнобыльскае воблака) — гэта звенні аднаго ланцужка, якім павязаны ўсе структуры нашай таталітарнай сістэмы.

Па прапанове прадстаўнікоў дэлегацый Украіны, Беларусі і Расіі быў утвораны Міжнацыянальны камітэт па абароне правоў народаў, пацярпелых ад чарнобыльскай катастрофы. Наступнае слуханне адбудзецца ў верасні-кастрычніку гэтага года ў Магілёве.

**Фелікс ШКІРМАНКОЎ,**
**член прэзідыума Беларускага Экалагічнага Саюза, член Міжнацыянальнага камітэта па абароне правоў пацярпелых ад Чарнобыля народаў.**

г. Слаўгарад.




**Сёлета для тых, хто прымаў удзел у ліквідацыі наступстваў чарнобыльскай катастрофы, зацверджаны спецыяльны ўзнагародны знак.**

**Як вядома, усе савецкія ордэны ці іншыя ўзнагародныя знакі маюць у кампазіцыйнай аснове пяцікутную зорку ці разгорнуты сцяг, альбо выявы гэтых дзяржаўных сімвалаў (дададзім сюды серп-молат) уваходзяць у кампазіцыю. Знак «Удзельніку ліквідацыі наступстваў аварыі ЧАЭС» гэтых атрыбутаў пазбаўлены. Ён мае ў аснове крыж (чырвоны) — сімвал пакут і міласэрнасці.**

**НАШ КАР.**

# ПАМЯРКУЕМ

# ДОБРА, ШТО ЁН НЕ ЗМЯНІЎСЯ!

Апранался — як дама, жыла — як рэвалюцыянерка, памерла — як хрысціянка... Гэта яна, наша Цётка. У гады першай рускай рэвалюцыі заклікала народ да зброі. Адчувальнай была не толькі да новых грамадскіх павеваў, але і да спрадвечных праяў сялянскай натуры. У гэтым сэнсе паказальны яе верш «Мужык не змяніўся» (1903). Калі Бог нарэшце прыкмеціў цёмнага, няздольнага да перамен мужыка, ён рашыў выканаць яго асноўныя жаданні. Чаго ж папрасіў мужык?

«О, дай ты мне, божа,
Хаця нову хату,
Дай кабылку сіву
І жонку багату.
Дай кароўку з целем,
Свінку, курэй колькі,
Дай жыта, мы змелем,
І годзе, і толькі».

Здавалася б, у нас ёсць усе падставы звысоку глядзець на дзівакаватую істоту, якая за стагоддзі сацыяльнага і навукова-тэхнічнага прагрэсу сапраўды не змянілася і засталася пры сваіх інтарэсах, пры свёй адвечнай праграме-мінімум. Герой верша падрабязна пералічвае ўсё, што неабходна для дабрабыту (нават пра курэй не забыўся!), але мара яго, такая просценькая і рэалістычная, дасюль, прыходзім да вываду, у поўнай меры не збылася. Не, хатнюю жыўнасць селянін заўжды трымаў, як ні цяжка было, ад кароў адмаўляюцца толькі зусім старыя і нямоглыя, а вось з жытам цяжэй. Для жыта не соткі зямлі патрэбны — загоны.

У Марыі Іосіфаўны Кішкурны, што жыве ў вёсцы Хатавічы Лагойскага раёна, зямлі няшмат было, усяго тры гектары. Сем авечак мелі яны з мужам ды шэсць сямей пчол, калі падпалі пад раскулачванне. Мясцовай міліцыі, відаць, прыглянулася іхняя новая хата, бо проста над дзіцячымі галовамі пачалі разбіраць дах.

З Амурскай вобласці вярнуліся ў 1949 г. і сталі, як усе, калгаснікамі. Сын Іосіф пераняў ад бацькоў цягавітасць і ашчаднасць, але разгарнуцца як гаспадару не выпадала. Пабойваўся ўлады, такой рашучай у жаданні вызваліцца ад багатых. Нават кампенсацыі не можа цяпер дабіцца для старой маці, бо яе хатай, перавезенай у Плешчаніцы на вуліцу Калініна, і па сённяшні дзень карыстаецца міліцыя. Бабулі ж даводзіцца дажываць век у часовай халоднай будыніне.

Для чаго я расказваю звычайную, нават банальную ў нашых умовах гісторыю? З падобных гісторый можна скласці шматтомную эпапею пад назвай «Ніколі не забудзем», штосьці новае тут дадаць цяжка. Ды мяне вось які аспект цікавіць: наколькі жывучая ў сялянскім характары гаспадарская рыса, ці захоўваецца яна генетычна?

Справа ў тым, што меншы ўнук Марыі Іосіфаўны пры першай жа магчымасці, прадастаўленай законам, узяў у арэнду зямлю. Уладзімір Кішкурна быў адным з першых на Лагойшчыне, яго нават тэлебачанне не абышло увагай. Праўда, здымачная машына ледзьве выбралася з гразі, калі захацелі зняць арандаванае поле. Толькі-толькі становіцца гаспадар на ногі: свойскую жывёлу завёў, адзін трактар купіў, другі сам сабраў. Прыдбаў бы і касілку, ды акт на зямлю мясцовыя ўлады не выдаюць (усё нечага асцерагаюцца), а без акту касілку не купіш. У планах традыцыйныя для сям'і авечкі (з-за якіх, верагодна, і «загрымелі» дзед з бабай), ёсць і новенькая ідэя — выкапаць сажалку ды разводзіць рыбу.

Як бачым, мужыка не змянілі не толькі стагоддзі цывілізацыі, але і 70 з лішнім год Савецкай улады! Феномен, варты спецыяльнага вывучэння. І фізічна прарэджвалі, і абіралі да ніткі, і маральна прыціскалі, і ўмовы на вёсцы стварылі немагчымыя для нармальнага жыцця, і вось дзіва — у тых, хто ўсё ж прыжыўся на зямлі, жывое і здаровае аказалася карэнне.

Я радуюся кожнаму пачутаму выпадку з'яўлення заможных сялянскіх гаспадарак. Якім жа было маё здзіўленне, калі неяк пачула з вуснаў народнага дэпутата РСФСР заклік «абараняць інтарэсы народа, а не прадпрымальнікаў». Аказваецца, **прадпрымальнікаў** састаўной часткай **народа** паранейшаму многія не лічаць. Стаіць малады селянін на пазычаным лапіку зямлі і крычыць свайму беларускаму ўраду — якраз як герой Цёткі: «Вузка! Цесна! Мала!..». «—Мы дамо! Мы — сіла! Мы—права!» — адказвалі тады «парабак дворны, салдат і работнік пецярбурскі». Але — не далі...

**Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ.**

# У ДАПАМОГУ ДЗЕЦЯМ

Міністэрства аховы навакольнага асяроддзя зямлі Ніжняя Саксонія (ФРГ) нядаўна выдзеліла Беларускаму дабрачыннаму фонду «Дзецям Чарнобыля» 100 тысяч марак спецыяльна для набыцця аўтатранспарту і аргтэхнікі, неабходных для больш эфектыўнага размеркавання гуманітарнай дапамогі ахвярам радыяцыі.

Днямі ж падпісана пагадненне фонду з Берлінскім сенатам, згодна з якім штогод у Германіі будуць адпачываць па чарзе 60 дзяцей з Беларусі, пацярпеўшых ад Чарнобыля. Усе выдаткі бярэ на сябе сенат.

**Наш кар.**

**АДГАЛОСКІ**

# МАЦАВАЦЬ БЕЛАРУСКІ АСЯРОДАК

Да такой высновы прыйшлі ўдзельнікі нарады, якую наладзілі Гродзенская гарадская рада ТБМ імя Ф. Скарыны і кафедра беларускай літаратуры Гродзенскага дзяржаўнага універсітэта імя Янкі Купалы. Тэма нарады — «Нацыянальная палітыка на Гродзеншчыне»—выклікала зацікаўленне прадстаўнікоў разнастайных культурных і палітычных суполак Гродна: ТБМ, Беларускай сацыял-дэмакратычнай Грамады, БНФ «Адраджэнне», КПБ (КПСС), Саюза палякаў Беларусі польскага культурна-асветніцкага таварыства імя А. Міцкевіча, народных дэпутатаў, абласных асветніцкіх улад, гуманітарнай інтэлігенцыі.

Сама нарада сабралася невыпадкова: надоечы калектыў выкладчыкаў і студэнтаў універсітэта звяртаўся ў ВС БССР і абласны Савет з нагоды нядзейснасці адраджэнцкай палітыкі ў вобласці, існавання пэўнага кансерватыўнага прэсінгу з боку адміністрацыйных улад па рэалізацыі Закона аб мовах. Адказу па сутнасці заявы не паступіла. Што можа ў такіх варунках інтэлігенцыя? — Адзінае: нягледзячы на рэцыдывы палітыкі нацыянальнага нігілізму, руплiва і нястомна нітаваць нацыянальна-моўнае асяроддзе ў тым рэгіёне, дзе наканавана лёсам сеяць зярняты духоўнай культуры.

Менавіта гэтая думка гучала ў большасці выступленняў на нарадзе (ёй з-за пастаяннага падыходу зацікаўленых людзей давялося перамясціцца з залы пасяджэнняў Вучонага савета ў прасторную студэнцкую аўдыторыю). На нарадзе, якую вёў старшыня гарадской рады ТБМ прафесар А. Пяткевіч, выступілі прарэктар ГДУ імя Я. Купалы, старшыня абласнога аддзялення Савецкага фонду культуры прафесар С. Габрусевіч, загадчык кафедры гісторыі Беларусі І. Крэнь, загадчык кафедры беларускай культуры прафесар П. Сцяцко, загадчык кафедры рускай літаратуры М. Мельнікаў, прафесар кафедры беларускай мовы І. Лепешаў, загадчык кафедры беларускай мовы К. Лецка, старшыня Саюза палякаў Беларусі Т. Гавін, прадстаўнікі палітычных партый, народныя дэпутаты.

Удзельнікі нарады пагадзіліся на тым, што поліэтнічнасць на Гродзеншчыне—рэальнасць, і праблемам развіцця рознаэтнічных культур наканавана вырашацца ў адзіным дзяржаўным звязе. Грамада ўхваліла выступленне прафесара С. Габрусевіча, які гаварыў аб тым, што ні ў адной краіне свету ніводная культура не перашкаджае адна адной, а дапаўняецца іншымі, і толькі палітычныя рэжымы, у прыродзе якіх закладзена дратаванне нацыянальных культур, адмаўляюць самацэннасць этнасаў, выкасоўваюць прыкметы нацыянальных культур, або ствараюць штучныя іерархіі нацый і культур.

На паводзіны гродзенскіх абласных улад адносна падтрымкі нацыяналных рухаў за адраджэнне не можа не ўплываць якраз «па-за нацыянальная» прырода савецкай дзяржаўнасці, і гэта трэба цвяроза канстатаваць, не чакаючы, што арол-мецэнат у асобе аблсавета ўраз пераўтворыцца ў homo natio, гаварыў Т. Гавін. Таму СП Беларусі разлічвае на ўласную ініцыятыву і прадпрымальнасць у пытаннях выдавецкіх, арганізацыйных і асветніцкіх. Для прыкладу: выданне «Глосу з-над Немна» заснавана як прыватнае. Дзеячам ТБМ лідэр Саюза палякаў зычыў такіх жа падыходаў да адраджэнцкай справы, бо ўсе нацыі ў межах СССР, —на ягоную думку, і карэнныя, і ўкрэпленыя — толькі пасынкі, але не дзеці дзяржавы, і не трэба моцна спадзявацца на патрыятызм чыноўнага апарату.

Нарада вылучыла рэдакцыйны гурт, які апрацуе выказаныя думкі для перадачы ў абласны Савет народных дэпутатаў. Але галоўная выснова нарады ў Гродне — мацаваць беларускі (і польскі) культурна-моўны асяродак, ствараць кола людзей, для якіх нацыянальная культура і мова ёсць асабістая рэлігія. Штодзённыя побытавыя ўплывы на акаляючую дэнацыяналізаваную моўную дыяспару, карпатлівае фарміраванне трывалых нацыялагем — вось рэальна магчымая адраджэнцкая чыннасць інтэлігенцыі ў сённяшніх варунках.

**Юрась ЗАЛОСКА.**

# «МЫ АСУДЖАНЫ НА СУВЕРЭНІТЭТ...»

**Напярэдадні IV сесіі Вярхоўнага Савета рэспублікі наш парламенцкі карэспандэнт гутарыць з народным дэпутатам БССР, членам рэдкалегіі «ЛіМа» Анатолем ВЯРЦІНСКІМ**

**— Красавіцкая «амаль рэвалюцыя» завяршылася ўнічыю. І «нізы» захацелі, і «вярхі» змаглі. Усталяваўся гэткі кансенсус па-беларуску — трэба бульбу пасадзіць. Разам з някепскім надвор'ем, паводкай кветкі і веснавымі навальніцамі пачатак мая нечакана падарыў нам — ці надоўга! — палітычны зацішак. Не трэба спяшацца на чарговы мітынг ці з'езд, можна крыху расслабіцца, паразважаць..**

**Анатоль Ільіч, у «ЛіМе» вас лічаць не госцем, а, так бы мовіць, «нашым чалавекам» у парламенце. Сустракаемся мы даволі часта, абменьваемся ўражаннямі ад падзей, ад убачанага і прачытанага. Абмяркоўваем, дзелімся, раімся... Вось і цяпер, калі сабраліся пагутарыць «для друку», можа, пачнём са звычайнага: як справы! Пра што апошнім часам думаецца! Якія эмоцыі пераважаюць!**

— Ёсць і нейкія станоўчыя эмоцыі, сапраўды звязаныя з прыходам новай вясны. Як-ніяк, але «ідзе-гудзе зялёны шум». А з іншага боку... Павінен табе сказаць, Андрэй, на фоне гэтых адвечных і мудрых законаў прыроды асабліва выразна бачацца, гаворачы талстоўскімі словамі, «несуразности жизни», у прыватнасці, нашага грамадска-палітычнага жыцця. Не будзем філасофстваваць наконт недасканаласці чалавечай прыроды, звернемся да нашай сістэмы, якая дае аб сабе знаць на кожным кроку.

Раніцай, 8-га мая, ідучы на працу ў Вярхоўны Савет, убачыў мноства цюльпанаў і з гумарам зарыфмаваў: «Ля Дома ўраду квітнеюць цюльпаны. Дык хто ж мы ўсё-ткі, слугі ці паны?» А ўвечары бачу на фасадзе таго ж будынка вялікі, на ўвесь фасад, лозунг, дзе напісана па-руску: «Да здравствует!..» Стала крыху не па сабе. Няўжо шматпакутны беларускі народ, які ахвяраваў на алтар перамогі каля трох мільёнаў сваіх сыноў і дачок,— не заслужыў таго, каб яго павіншавалі з Днём Перамогі на яго роднай мове? Гэта да пытання аб нашых сённяшніх эмоцыях — станоўчых і адмоўных...

Або такі, іншага плана, прыклад. У якасці амаль што маёвага святочнага віншавання газета падкідвае мне чарговы «зварот»,— на гэты раз сакратароў камітэтаў КПСС гарадоў-герояў Саюза ССР — «да працоўных, савецкіх людзей». Тут бянтэжыць не столькі сам гэты «сакратарска-палітрукоўскі злёт», і нават не ўвесь гэты набор траскучых прапагандысцкіх штампаў і крыклівых агітацыйных клішэ. Бянтэжыць грэбаванне рэаліямі сённяшняга дня, зацятае нежаданне лічыцца з логікай развіцця падзей, спекуляцыя на дарагіх для народа паняццях, абыходжанне з чалавекам як з «адзінкай», якую можна і трэба «ахапіць», «прыцягнуць», «мабілізаваць». Працяг усё таго ж шматгадовага «прамывання мазгоў», усё той жа вялікай хлусні, якой мы ўжо насёрбаліся досыта.

**— І працягваем сёрбаць. Прынамсі, кухня, на якой гатуецца тая поліўка, працуе спраўна. Тут, на жаль, дэфіцыту няма...**

— Вось, уключаю радыё... Запісны прамоўца пералічвае ўмовы, якія забяспечылі нашу перамогу ў Вялікай Айчыннай. Называе ўсё, — у духу сталінскіх «фектараў» і «ўдараў» — і «заваёвы Кастрычніка», і «адзінства і дружбу савецкіх людзей», і «вызначальную ролю партыі»... Няма толькі галоўнага, — што перш за ўсё кожны чалавек абараняў ад іншаземнага захопніка свой дом, сваю сям'ю, сваю зямлю, што перамога была здабыта занадта вялікай крывёю і што гэтае свята сапраўды «са слязьмі на вачах», што Вялікай Айчыннай папярэднічала «Вялікая злачынная» — вайна са сваім народам і яго арміяй. Тут мы яшчэ неделёка адышлі ад сталінізму: сутнасць якога, як правільна зазначыў аўтар кнігі «Вялікі тэрор» Р. Конквест, складалі не столькі культ асобы, колькі маральны тэрор, фальсіфікацыя, хлусня.

Бянтэжыць, аднак, не толькі схільнасць «абольшчацца няпраўдой». Бянтэжыць махровы **антыдэмакратызм** — нейкае татальнае непрыняцце чалавека як асобы, як суб'екта права, чалавека як прадстаўніка пэўнай нацыі. Давай прыгадаем, як пачаўся Нагорны Карабах. Пакуль спявалі «Парень весёлый из Карабаха», усё было добра. А вось як толькі сесія абласнога савета НКАВ выказала сапраўдную волю часткі армянскага народа, — вясёлая песенька спынілася, загучалі іншыя матывы. Нежаданне вырашаць праблему палітычнымі, цывілізаванымі метадамі стала перадумовай трагедыі, якая ўжо набыла, па сутнасці, характар грамадзянскай вайны. Законна выбраны літоўскі парламент прымае рашэнне аб незалежнасці — і з гэтым, аказваецца, зноў можна не лічыцца, вакол гэтага дзяржаўна-прававога акта можна весці недастойныя гульні з прымяненнем сілы, інтрыг, шантажу, можна не паважаць волевыяўленне цэлага народа.

А рэакцыя «ўладу трымаючых» на масавыя выступленні працоўных? Я маю на ўвазе перш за ўсё — па часе — забастоўкі шахцёраў.

**— Зрэшты, нам можна ўжо і не хадзіць па прыклады за межы рэспублікі. Звернемся да нашых красавіцкіх падзей, калі на авансцэну палітычнага жыцця Беларусі выйшаў «чалавек у спяцоўцы». Мяне, напрыклад, і абурала і смяшыла тая тузаніна, якая ўсчалася вакол таго, народ выйшаў на плошчу ці не народ! Сам ён выйшаў ці яго прывялі нейкія экстрэмісты! Здавалася б, пагадзіліся, — так, народ. Нявысветленым, аднак, засталося пытанне: да якой мяжы з гэтым народам трэба лічыцца... Дарэчы, Анатоль Ільіч, трэба было склікаць нечарговую сесію ці не трэба!**

— Мяркую, на гэтае пытанне адказваць трэба з пункту гледжання таго, што набыў і што страціў наш парламент, калі адмовіўся яе праводзіць. Я лічыў і цяпер лічу, што сесію неабходна было склікаць (дарэчы, сам прымаў дзеля гэтага пэўныя захады). Падзеі набылі настолькі сур'ёзны размах, што мы, дэпутаты, мусілі так ці інакш рэагаваць на іх. І, трэба сказаць, рэагавалі: удзельнічалі ў мітынгах, сустракаліся з людзьмі, знаёміліся з іх патрабаваннямі, выказвалі свае адносіны на пасяджэннях камісій, у сродках масавай інфармацыі. Але не было галоўнага, мы не ўплывалі на развіццё падзей на тым узроўні, на якім павінны былі ўплываць, — на ўзроўні прыняцця рашэнняў. Дзеля гэтага і трэба было сабрацца на сесію. Прэзідыум відавочна перавысіў свае паўнамоцтвы, узяўшыся вырашаць за ўвесь Вярхоўны Савет. Так, у адпаведнасці з рэгламентам прэзідыум мае права склікаць сесіі, але ён не мае права іх не склікаць пры надзвычайных сітуацыях.



Лічу, што прэзідыум на сустрэчы з прадстаўнікамі стачкамаў павінен быў выслухаць іх патрабаванні, склікаць на дзень-другі сесію, давесці пачутае да дэпутатаў, а ўжо там, на сесіі, у выніку дыскусіі было б прынята рашэнне, што рабіць далей. Магчыма, сесія адразу перарасла б у чарговую, магчыма, быў бы перапынак на некалькі тыдняў.

**— Ведаеце, Анатоль Ільіч, я глядзеў тое, у пэўным сэнсе унікальнае, пасяджэнне прэзідыума з удзелам прадстаўнікоў стачкамаў. І ў мяне часам складвалася ўражанне, што некаторыя дэпутаты казалі не зусім тое, што яны на самай справе думаюць, а тое, што трэба казаць. Так бы мовіць, «праводзілі лінію», а не імкнуліся выслухаць, зразумець, асэнсаваць, прыняць адэкватныя рашэнні.**

— Баюся, што гэта сапраўды так. Тут мне бачыцца, можна сказаць, драма не толькі прэзідыума, але і ўсяго нашага Вярхоўнага Савета, які не хоча (не можа) станавіцца сапраўды — Вярхоўным, сапраўды — Саветам, сапраўды — Рэспублікі. Перамовы з прадстаўнікамі рабочых кантрастна адцянілі гэты парадокс. Што атрымоўвалася? Рабочыя — а гэта ж нашы выбаршчыкі — не толькі пацвярджалі атрыманы намі летась мандат, але і патрабавалі: будзьце вярхоўнымі заканадаўцамі, служыце не каму-небудзь, а свайму народу, рэалізуйце дадзеную вам уладу па прызначэнні.

**— Забастовачны ўсплёск можна аналізаваць у розных плоскасцях. Я хачу прапанаваць такі аспект: рабочы рух і Адраджэнне. Рознанакіраваны гэта працэсы ці паралельныя! Увогуле, якая сувязь існуе паміж імі! Што вы, Анатоль Ільіч, думаеце з гэтай нагоды!**

— Правамерная пастаноўка пытання. Мы з табой, Андрэй, ведаем, што ў размовах пра Адраджэнне на старонках нашага «ЛіМа» яшчэ ўчора гучалі галасы пераважна інтэлігента (пісьменніка, навукоўца, мастака, настаўніка, бібліятэкара). Зрэдку падключаліся прадстаўнікі іншых сацыяльных груп — іх думка, іх паважлівае стаўленне да нацыянальна-культурных праблем былі для нас на вагу золата. Як мы сумна жартавалі, — мабыць, і сапраўды вузкае наша кола, страшна далёкія мы ад народа... Але ўжо тады ўсталёўвалася ўсведамленне, што адраджэнцкія працэсы павінны ісці ўглыб і ўшыркі. Ну сапраўды, ці можна казаць усур'ёз пра дзяржаўнасць мовы, не маючы рэальнай дзяржаўнасці, без далучэння да ідэі палітычнай і эканамічнай незалежнасці Беларусі шырокіх мас?

І вось, як ты кажаш, «ўсплёск». З задавальненнем сведчу, што на плошчы гучала беларуская мова, прамаўляліся словы Купалы, Цёткі, Коласа, Багдановіча; лунаді бел-чырвона-белыя сцягі, плакаты заклікалі— «Якому народу ты служыш, народны дэпутат?», «Беларусі — поўны суверэнітэт!», «Далоў рабства!», «У сваім доме навядзем парадак самі!»; кожнае другое выступленне заканчвалася воклічам «Жыве Беларусь!» У шэрагу імправізаваных, пазбаўленых асабліва красамоўства, наіўных, але абсалютна шчырых выступленнях гучала надзея, што «беларусы ўстаюць з каленяў», пачынаюць усведамляць сябе народам, гаспадаром сваёй зямлі, вынікаў сваёй працы.

На жаль, гэтая адметнасць красавіцкіх выступленняў працоўных не была належным чынам заўважана ні ў друку, ні ў ацэнках афіцыйных асоб. Між тым, ідэя беларускага Адраджэння атрымлівала новы імпульс, новае вымярэнне, з якім ужо нельга не лічыцца.

**— Хутка будзе год, як ВС БССР прыняў Дэкларацыю аб дзяржаўным суверэнітэце рэспублікі. Як вы лічыце, за мінулы год ці сталі мы хоць крыху суверэннымі, ці прасунуліся наперад абвешчаным шляхам! Што, на ваш погляд, сёння замінае ўвасабленню дэкларацыі, напаўненню яе рэальным зместам! Пытанне тут да вас яшчэ і як да члена Канстытуцыйнай камісіі...**

— Мы толькі што гаварылі пра новы моцны імпульс, атрыманы на гэты раз «знізу». Думаю, зрабілі больш рэальнай ідэю суверэнітэту і тыя горкія ўрокі, якія атрымала рэспубліка апошнім часам: тут і цяганіна з боку Цэнтра з прыняццем чарнобыльскага заканадаўства, і сумніцельныя эксперыменты саюзнага ўрада з так званым пераходам да так званага рынку... З іншага боку, ідуць працэсы палітычнага сталення народа, узнікаюць новыя палітычныя партыі і рухі. Варта таксама адзначыць, што ў заяве «дзевяць плюс адзін», пад якой стаіць і подпіс нашага прэм'ер-міністра, размова ідзе аб Саюзе суверэнных дзяржаў. Ёсць і пэўныя спадзяванні на чарговую сесію Вярхоўнага Савета, якая, трэба думаць, на гэты раз будзе прымаць рашэнні, больш адэкватныя жыццю і часу. Нагадаю, што адно з патрабаванняў бастуючых рабочых было: напоўніць рэальным зместам артыкулы Дэкларацыі аб суверэнітэце (патрабаванне дэпутатаў ад апазіцыі БНФ — надаць дэкларацыі канстытуцыйны характар).

Калі горка жартаваць, то нам, беларусам, няма ўжо куды дзявацца, мы асуджаны на суверэнітэт. Як гэта ні сумна, але мы робімся паступова суверэннымі — калі не па сваёй волі, дык у сілу абставін.

На парадку дня IV сесіі, праўда, ледзь не апошнім — дваццаць шостым — пунктам стаіць пытанне «Аб праекце Саюзнага дагавора». Гісторыя гэтага пытання па-свойму сімптаматычная ў кантэксце гаворкі пра тое, што замінае (аб'ектыўна і суб'ектыўна) рэальнай суверэнізацыі рэспублікі.

Апублікаваны для, так сказаць, усенароднага абмеркавання ўжо два праекты Саюзнага дагавора. Пад апошнім з іх стаяць і подпісы паўнамоцных прадстаўнікоў нашай рэспублікі. Не раз паведамлялася, у тым ліку і самім Прэзідэнтам, што праект разглядаецца ў Вярхоўных Саветах рэспублік. На жаль, сур'ёзнага абмеркавання не было — ні ў камісіях, ні на пленарных пасяджэннях. Спадзяюся, што на майскай сесіі праект Саюзнага дагавора — дакумент, ад якога залежыць дзяржаўна-прававы статус Беларусі, яе палітычная будучыня, — будзе разгледжаны грунтоўна, партыкулна, з адпаведным усведамленнем адказнасці за лёс рэспублікі.

**— Сесія пачнецца праз некалькі дзён. З ёй звязваюцца пэўныя спадзяванні, хоць, прызнаюся, вельмі і вельмі шмат сумненняў, — калі мець на ўвазе склад нашага Вярхоўнага Савета. У тым, што сесія будзе «чарговая», я не сумняваюся. А вось ці стане яна «надзвычайнай» па важнасці прынятых рашэнняў, — тут лёгка памыліцца. А якое, Анатоль Ільіч, ваша адчуванне!**

— Прыкладна такое ж. У палітыцы, як і ў жыцці, ёсць рэчы, якія ты можаш рабіць толькі па ўнутранай патрэбе, па перакананні: скажам, сцвярджаць сваю годнасць і незалежнасць, адстойваць прынцыпы галоснасці, свабоды, дэмакратыі, увасабляць у жыццё ідэі духоўнага і нацыянальнага Адраджэння. І тут ужо — або ты за, або ты супраць. І менавіта яны, гэтыя «за» і «супраць» будуць высвечвацца на электронным табло залы пасяджэнняў Вярхоўнага Савета і пад час гэтай сесіі...

**Вёў гутарку**
**Андрэй ГАНЧАРОЎ.**

# Дзень добры, Максіме!




**Сёлетні год — год Максіма Багдановіча...**

**Стагоддзе з дня яго нараджэння, якое спаўняецца 9 снежня, не проста знамянальная дата ў жыцці нашага народа, а і магчымасць яшчэ раз прайсціся сцяжынамі-дарогамі Вялікага Беларуса, спыніцца на тых паваротках іх і паўстанках, якія сталі асноватворнымі ў ягоным жыцці і творчасці, засведчылі нязгасную моц таленту, надзвычайную нацыянальную самабытнасць яго. Адначасова прадстаўляецца і іншая мажлівасць: супыніцца і задумацца, узважваючы, падрахункоўваючы жыццё-быццё нацыі за ўсе гэтыя сто гадоў, шукаючы адказу на пытанне, якое не можа не паўставаць сёння, як неаднойчы паўставала яно і раней: «А ці той дарогай ідзём, браткі беларусы?»**

**Ці той? Як быццам паступова ступаем на бальшак, які выбіраў і М. Багдановіч. Нам цяжка, а яму ж было куды цяжэй. Ён сам вызначаў свае арыенціры. Адарваны ад Бацькаўшчыны, болей спадзяваўся на ўласныя сілы, на ўласную інтуіцыю. У нас жа, як бы цяжка ні было, наперадзе, у доўгім тунелі прабіваецца ўжо святло. Святло, запаленае ў розныя гады тытанамі нацыянальнага Адраджэння. Адзін з першых сярод іх — ён, Максім, Адамаў сын. Яго зорка на нацыянальным небасхіле адна з самых яркіх.**

**«Дзень добры, Максіме!»**

**Словы гэтыя будуць гучаць сёлета часта. А ці не ўпершыню прагучалі яны сёння ў далёкай Ялце, ля самага Чорнага мора, на Лівадзійскіх могілках, дзе ты, Максіме, спіш вечным сном з 27 мая 1917 года, калі лёг на спачын у гэтую зямлю, марачы аб зямельцы сваёй, роднай, беларускай, у лепшы лёс якой верыў заўсёды:**

**Не згасла сонца! Сонца гляне,**
**Усіх памые ада сна.**
**Ён, гэты дзень, яшчэ настане, —**
**І ачуняе старана!**

**З Ялты ўзялі пачатак святочныя ўрачыстасці, прысвечаныя 100-годдзю з дня нараджэння М. Багдановіча. У Ялцінскім драматычным тэатры імя А. П. Чэхава сёння адбудзецца вечар-ушанаванне паэта. Адбудуцца сустрэчы з прадстаўнікамі беларускай літаратуры і культуры ў санаторыях «Беларусь», «Расія», «Украіна». У працоўных калектывах горада, у кінатэатрах пачнуць дэманстравацца стужкі пра жыццё і творчасць М. Багдановіча.**

**Як паведамілі нашаму карэспандэнту ў Рэспубліканскім аргкамітэце па падрыхтоўцы і святкаванні юбілею М. Багдановіча, яшчэ 11 сакавіка на яго пасяджэнні зацверджана разнастайная праграма. 26 мая пройдуць Багдановічаўскія чытанні ў Садзе М. Багдановіча каля тэатра оперы і балета ў Мінску. У канцы жніўня — урачыстасці ў вёсцы Вяззе Асіповіцкага раёна. 1 верасня — Усебеларускае свята паэзіі ў Ракуцёўшчыне на Маладзечаншчыне... Адначасова Дзень М. Багдановіча пройдзе ва ўсіх школах і дашкольных установах, прафесійна-тэхнічных вучылішчах, тэхнікумах.**

**20—22 верасня М. Багдановіча ўспомніць Ніжні Ноўгарад, 26—28 верасня — Яраслаўль, дзе адкрыецца дом-музей паэта.**

**Юбілей М. Багдановіча адзначаць у Гродне, Кіеве, Львове, Вільні...**

**На снежань прызначаны адкрыццё Літаратурнага музея Максіма Багдановіча ў Мінску, канцэрт з прэм'ерным прадстаўленнем новых музычных твораў на вершы паэта ў Доме літаратара, дзень М. Багдановіча на ВДНГ БССР, юбілейная асамблея вучоных-багдановічазнаўцаў у Акадэміі навук Беларусі, выстаўка выяўленчага мастацтва «Краса, і светласць, і прастор...».**

**9 снежня, у дзень нараджэння паэта, прадстаўнікі грамадскасці збяруцца ў Дзяржаўным тэатры оперы і балета БССР на ўрачысты вечар. Юбілейны ўрачысты вечар на 20 снежня запланаваны ў Калоннай зале Дома Саюзаў у Маскве...**

**І, зразумела, юбілей М. Багдановіча шырока адзначаць перыядычны друк, радыё і тэлебачанне. Пра творчасць і жыццё Максіма-Кніжніка неаднойчы пісаў у апошні час і «ЛіМ». З гэтага ж нумара юбілейныя матэрыялы стануць пастаяннымі.**

**ДЗЕНЬ ДОБРЫ, МАКСІМЕ!**

# ЗНАК НА ПАЭТАВАЙ СЦЯЖЫНЦЫ

З набліжэннем 100-годдзя з дня нараджэння Максіма Багдановіча яшчэ ярчэй ажывае ўсё, што нагадвае пра дзівоснага песняра нашай Белай Русі. Для мяне, як і для кожнага беларуса, гэта не толькі яго цудоўная паэзія і ўсё, што з ёю звязана, яго яркае і кароткае, як маланка, жыццё, а і магіла ў Ялце, да якой цягне нейкая таямнічая сіла. І кожны раз, калі ўдаецца трапіць у горад «ля сіняй бухты», першым чынам спяшаешся на могілкі, дзе пад кіпарысамі пагорачак з апошнім прытулкам паэта. Паставіць (там заўсёды ёсць посуд і свежая вада) букецік жывых кветак, моўчкі «пагаварыць», падумаць разам, як з жывым, вечна юным і не па гадах мудрым мысліцелем.

Другой святой мясцінай, як і для тысяч землякоў-маладзечанцаў, стала для мяне Ракуцёўшчына. Пасля таго, як аднойчы ў 1974 годзе вядомы ў рэспубліцы краязнаўца - даследчык, які працаваў тады дырэктарам Мінскага абласнога краязнаўчага музея, што ў Маладзечне, Генадзь Каханоўскі расказаў у нашым райкоме партыі аб выніках свайго шматгадовага пошуку месца летняга адпачынку М. Багдановіча ў 1911 годзе, якім аказалася гэта невялічкая вёсачка каля Краснага, узнікла і не пакідала нястрымнае жаданне навечна пазначыць тут хоць адну паэтаву сцяжыну.

Працуючы другім сакратаром райкома партыі, я ўзначальваў і раённую арганізацыю Беларускага таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры. «Дык табе і карты ў рукі»,— сказалі першы сакратар райкома У. Быкоўскі і старшыня райвыканкома Р. Давыдоўскі. Людзі яны былі разважлівыя і па-сапраўднаму дзелавыя. Таму адразу падтрымалі прапанову аб знаку ў Ракуцёўшчыне. Калі абмяркоўвалі гэта на пасяджэнні райвыканкома, усе згадзіліся з адной умовай: ён павінен быць просты па кампазіцыі, але велічны, непаўторны і з трывалых матэрыялаў.

Наш раён тады быў адным з багацейшых у рэспубліцы і таму за грашовымі сродкамі справа не стаяла. Прапаноўвалі каштоўны жытомірскі граніт, мармур, бетон вышэйшых марак. Па форме і змесце таксама было нямала розных прапаноў. Толькі цяжка высвечвалася тое самае, у якім бы спалучалася прастата, велічнасць, прыгажосць, непаўторнасць і трываласць. Як яго выявіць?

І мы вырашылі, як ужо практыкавалі неаднойчы, звярнуцца да самага таленавітага майстра, імя якому — прырода. Трэба было падабраць адзін-два камяні-валуны з тых, што нямала прынёс на нашу зямлю тысячагоддзі назад магутны ледавік. Пры гэтым з Генадзем Аляксандравічам дамовіліся, што будзем шукаць толькі паблізу Ракуцёўшчыны, Краснага і Касцюшак — там, дзе хадзіў Максім, мог прыхінуцца ці прысесці на камень пры сцяжынцы. Але знайсці такія экземпляры, якія б спадабаліся кожнаму, гэта, шчыра кажучы, вельмі нялёгка. Агледзець давялося шмат, і ва ўяўленні ўжо праглядаўся ўзор. Таму, хоць і не спадзяваўся на хуткую поўную ўдачу, усё ж рызыкнуў заказаць у Калядзічах на заводзе вытворчага ліцця і манументальнай скульптуры памятную пліту з наступным тэкстам: «У в. Ракуцёўшчыне ў 1911 г. жыў і працаваў вядомы беларускі паэт Максім Багдановіч.

Хоць зернейкі засохшымі былі,
Усё ж такі жыццёвая іх сіла
Збудзілася і буйна ўскаласіла
Парой вясенняй збожжа на раллі».

Гэтае чатырохрадкоўе з выдатнага хрэстаматыйнага «Санета», які М. Багдановіч прысвяціў прафесару Харкаўскага універсітэта А. Пагодзіну, падкупіла нас не толькі дзіўнай сімвалічнасцю і сугучнасцю душы творцы і тым, што яно выпісана на надмагільным помніку самога аўтара, а і вельмі ўдалым, на нашу думку, стасаваннем да аблюбаванага заўсёды сухога жвіраватага ўзгорка ля скрыжавання дарог-сцяжынак з Ракуцёўшчыны ў Касцюшкі і з Краснага ў Чысць і Асавец.

Быў у нас і другі тэкставы варыянт, для якога выкарысталі два першыя радкі заключнага шасцірадкоўя верша «У вёсцы», у якім паэт прыгожа вымаляваў саму Ракуцёўшчыну і шчырую ўдзячнасць ёй:

— Страніца лепшая
у штодзённіку жыцця!
Зноў з ціхай радасцю цябе
чытаю я.

Але тады вырашылі пакінуць іх для іншага разу і месца.

Аднак то не хапала часу, то зноў жа не ўдавалася знайсці адпаведныя задуме камяні, якія б захапілі, то «дарадчыкі» трапляліся такія, што пасля іх кіраўнічых парад не толькі працаваць, а жыць было мутарна. На жаль, хутка пасля задуманага выехаў з раёна У. Быкоўскі, нечакана памёр Р. Давыдоўскі. Новае кіраўніцтва, асабліва прысланы з Мінскага абкома першы сакратар райкома партыі Я. Саламонаў пры падтрымцы зверху хутка вымеў панаваўшую раней творчую, добразычліва-патрабавальную атмасферу даверу і адказнасці і замяніў яе брыгадзірска - каманднай. Была, што называецца, зарэзана прапанова саўгас «Краснае» перайменаваць у імя Максіма Багдановіча. Маўляў, знайшлі нейкага «ліберальнага дэмакрата», які нічога не зрабіў ні для Ракуцёўшчыны, ні для Краснага. А на пачатку вясны 1977 года мяне падвартавала даволі цяжкая і небяспечная хвароба. Пасля двух месяцаў лячэння дактары з інстытута неўралогіі, што ў Бараўлянах пад Мінскам, яшчэ на два месяцы забаранілі працаваць.

Але гэта дало мне вольны час для пошуку запаветнага каменя. Калі дазваляла надвор'е, ехаў электрычкай да ст. Уша, а далей пеша да Ракуцёўшчынскага поля. Іншы раз удавалася скарыстаць райкомаўскі УАЗік. Часам далучаўся старшыня Красненскага сельсавета, дбайны гаспадар і сябар Таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры Міхась Калеснікаў.

І вось аднойчы надвячоркам каля сцяжынкі пры сасновым ляску ўбачыў тое, што так доўга шукаў. Там, дзе, што вельмі магчыма, такім жа ціхім часам цёплай і ласкавай перадсенакоснай пары 1911 года няспешна вяртаўся з чарговай творчай прагулкі наш збіральнік і носьбіт натхнення і прыгажосці, ляжалі побач два вялікія і зусім не падобныя адзін на другога камяні. Мяккімі, але яшчэ яркімі промнямі асвятляла іх прыгожыя мудрагелістыя ўзоры перадвячэрняе сонца. Прырода нібы спецыяльна прызапасіла і зберагла іх для нашай святой патрэбы.

На наступны дзень паказаў іх Міхасю Калеснікаву. У яго добры мастацкі густ, пачуццё прыгажосці.

— Усё! Перавозім і ставім. Тэхніка і ўсё астатняе за мной, — падсумаваў ён па-гаспадарску.

Дарэчы, ён нарадзіўся і вырас на Данбасе. Юнаком пайшоў на фронт. Вайна прывяла яго на беларускую зямлю. У складзе сапёрнага батальёна інжынерных войск прымаў удзел у размініраванні Дома ўрада, так званага дома авіяцыі і іншых будынкаў у Мінску. Пасля перамогі вярнуўся ў Беларусь. У нашым Красным закахаўся ў прыгожую беларусачку і навечна, як кажуць, прыкіпеў тут з жонкай, дзецьмі і ўнукамі. На ўсё жыццё парадніўся і са сваім інжынерным батальёнам. І варта было яму звярнуцца да яго камандзіра Васіля Аляксеенкі, як той адразу ж прызначыў дні работы, выдзеліў патрэбныя сілы і сродкі. Дазнаўшыся пра такую высакародную акцыю, да яе далучыўся і начальнік інжынерных войск акругі генерал Павел Данілавіч Гутэнка. Да гэтага варта дадаць, што абодва яны, як і Міхась Калеснікаў, украінцы.

Радавалася сэрца, назіраючы, з якой любоўю і павагай да памяці слаўнага сына беларускага народа працавалі маладыя салдаты, афіцэры і баявы генерал-франтавік. З высокім майстэрствам, проста-такі ювелірнай асцярожнасцю, каб, барані Бог, не пашкодзіць стальным тросам далікатнае цела галоўнага каменя-прыгажуна, падымалі яго з зямлі, пагружалі на аўтамабіль, везлі, зноў разгружалі і ставілі на загадзя падрыхтаваныя падмуркі-гнёзды.

На ўсё жыццё запомніўся той сонечны суботні дзень 18 чэрвеня 1977 года. У другой палове дня сабраліся каля Ракуцёўшчыны сотні вяскоўцаў, жыхароў Краснага і пасёлка Чысць, прыехаў сакратар праўлення Саюза пісьменнікаў Беларусі Іван Чыгрынаў, паэт, прафесар БДУ імя Леніна Ніл Гілевіч, паэт Пятрусь Макаль, пісьменнік Уладзімір Ліпскі, генерал Павел Гутэнка і камбат маёр Васіль Аляксеенка, група салдат, якія прымалі ўдзел ва ўзвядзенні знака. Вядома ж, быў і Генадзь Каханоўскі. Шмат добрых і шчырых слоў сказалі ў сваіх выступленнях І. Чыгрынаў, Н. Гілевіч, П. Макаль, гучалі вершы Максіма Багдановіча, і пра яго, і пра гэту добрую зямлю, і гасцінную вёску, якая ў той ужо далёкі час прытуліла і шчодра давала сілу хвораму песняру, жывіла яго чыстым, густа настоеным на хвоі, травах і кветках, паветрам і гаючай крынічнай вадой. Дзякавалі воінам за старанную працу і высокую свядомасць. Нам жа з Г. Каханоўскім было прыемна яшчэ і ад таго, што, як падкрэслівалі выступаючыя літаратары, гэты Знак быў першым помнікам паэту, які на той час быў узведзены ў Беларусі.

З таго часу невялічкая Ракуцёўшчына, пра якую амаль 350 гадоў за межамі Маладзечаншчыны мала хто ведаў, стала вядомай усёй рэспубліцы. Вясной 1981 г. нашы паэты і пісьменнікі разам з вучнямі і настаўнікамі Чысцінскай і Красненскай сярэдніх школ заклалі каля знака Максімаў сад (так назвалі яго з лёгкай рукі Ніла Гілевіча). І хоць тут бясплодны сухі жвірок, але тыя кволыя бярозкі, клёны і вербы ў большасці прыжыліся і ўжо набралі сілу.

●



На здымку, які быў зроблены пасля адкрыцця Знака 18 чэрвеня 1977 г. на сцежцы паэта (злева направа): Генадзь Каханоўскі, Ніл Гілевіч, Уладзімір Ліпскі, аўтар гэтай нататкі, Пятрусь Макаль, Васіль Аляксеенка, Павел Гутэнка, Іван Чыгрынаў.

**В. ЛЯШКОВІЧ,**
**заслужаны работнік культуры БССР, старшыня Маладзечанскай раённай ветэранскай арганізацыі.**

# ТОЛЬКІ НАМАГАННЯМІ ЎСІХ

Асацыяцыі, як вядома, рухаюць думку. Пэўна, таму мы так часта бываем у палоне ўстойлівых стэрэатыпаў і так потым пачынаем у іх верыць, што лічым іх за існасць, за аксіёму, якая, як вядома, не патрабуе доказу. Не здзіўлюся, што вельмі ўжо нечаканым, «крамольным», а то і горш (у арсенале пільных і непахісных адпаведных слоў багата), можа падацца цікавы артыкул Валянціна Акудовіча ў дзесятым нумары «ЛіМа» за гэты год. Сапраўды, Еўропа і Азія, патрыярхальшчына і прагрэс, традыцыі і сучаснасць — ці не вечныя гэта пытанні для любога творцы, для любога інтэлігента, урэшце, для любога грамадзяніна, які хоча бачыць свой народ магутным, вольным, самабытным?

Ва ўступным артыкуле да двухтомніка В. Мандэльштама прачытаў радкі С. Аверынцава аб ролі і месцы каталіцкіх матываў у творчасці такіх, здавалася б, розных творцаў, як той жа Мандэльштам і Пётр Чаадаеў. Аказваецца, і для таго, і для другога каталіцызм стаў шляхам да еўрапейскасці, да абсягаў высокіх, як цяпер прынята казаць, агульначалавечых каштоўнасцей, якія скрыжалямі гарэлі на штандарах вечнага Рыма, сімвалізуючы свабоду, культуру, дасканаласць.

**Прав народ, вручивший посох**
**Мне, увидевшему Рим....**

Так піша Мандэльштам, наклікаючы тым самым на сябе папрокі ў адступніцтве, здрадзе духоўным традыцыям зямлі, якая ўзгадавала яго. Але тое, што для П. Чаадаева ці В. Мандэльштама выглядае бунтам, нявернасцю, куды больш натуральна для літаратуры беларускай. І я згодны з В. Акудовічам, што адметнасць гэтую мы занадта доўга не хацелі заўважаць, арыентуючыся, як ён слушна кажа, на бязмежнасць, шырыню і зухаватасць, на месіянства, містыцызм, што куды больш натуральна для ўсходняга суседа і не зусім адпавядае духу, настрою і нацыянальным традыцыям народа, які і па геаграфічным становішчы, і па духоўнай блізкасці ўсё ж больш зарыентаваны на культуру славянскага Захаду.

Сапраўды, скарынаўскі гуманітарны пачатак, які выглядае ў пракруставым ложы жорсткіх канонаў праваслаўя як ерась — больш блізкі яго роднаму народу, чым непахіснасць і суровая ахвярнасць Сімяона Полацкага.

І вось у гэтай сувязі вельмі цікава зірнуць на тыя працэсы, якія адбываюцца ў нашай літаратуры, на тыя асноўныя шляхі, па якіх ідзе творчасць і старэйшых, і маладзейшых пісьменнікаў Беларусі.

Памятаю са сваіх юнацкіх семінараў «Для маладых» страшнае і жорсткае слова «літаратуршчына». Яно гучала часта, як прысуд тым, хто хоць у нечым хацеў адысці ад звыклых «росных сцяжынак» і «басаногага дзяцінства», клятваў у любві і вернасці бярозкам, абеліскам пры дарозе, мазолістым рукам, што пахнуць хлебам... А ўжо, не дай Божа, паэт ці празаік начытаецца розных Камю ці Іанэска і захоча ў нечым пераняць іхнія прыёмы!.. Гэта кваліфікавалася як злосны «мадэрнізм», што, зразумела, гучала горш за лаянку.

А між тым нашы сучаснікі пасля знаёмства са школьнай хрэстаматыяй па роднай літаратуры, выхаваныя на здзеклівых пародыях накшталт «гляджу на шэрага сабаку...» зусім адмаўляліся чытаць беларускую літаратуру, не заўважаючы ў агульным не надта яркім патоку такіх моцных па-сапраўднаму еўрапейскіх пісьменнікаў, як М. Танк, Я. Брыль, М. Стральцоў, А. Вярцінскі і іншыя. Хіба толькі В. Быкаў і У. Караткевіч прабівалі гэтую глухую сцяну чытацкай няўвагі.

Што ж сёння? В. Акудовіч называе тых творцаў, якія, на яго погляд, зараз плённа працуюць у рэчышчы еўрапейскай культурнай традыцыі: А. Разанаў, Л. Дранько-Майсюк, А. Мінкін, А. Глобус, У. Сцяпан, С. Дубавец... Ды імёны гэтыя назваць у пэўным сэнсе лягчэй, бо нават знешняя манера пісьма, форма творчасці названых літаратараў дэкляруюць нетрадыцыйнасць, эксперымент, пошук. Не з меншай падставай я дадаў бы сюды, скажам, і апошнія вершы ў прозе Я. Сіпакова і У. Арлова. Цікава, па-мойму, асвойваюць еўрапейскі менталітэт і празаікі В. Гігевіч, Г. Казлоў, П. Васючэнка, А. Федарэнка...

А як жа быць тады з творамі на так званую «вясковую» тэму, з традыцыйнасцю, аб чым так доўга мы гаварылі, чым ганарыліся, чым вымяралі сваю роднасць і лучнасць з падобнымі глыбіннымі плынямі? Думаецца, адказ тут не такі адназначны, як можа падацца на першы погляд. Так што тэарэтыкам літаратуры ёсць над чым працаваць.

Ды ці такія ўжо мы блізкія ідэалу той шырокай, багатай, развітой і самастойнай беларускай літаратуры, якая б заняла сваё ганаровае і пачэснае месца ў сям'і не толькі еўрапейскіх, а і сусветных літаратур? Здаецца, да гэтага трэба прайсці яшчэ даволі доўгі шлях. Ёсць, канешне, таму нямала прычын аб'ектыўных, гістарычных. Ды не пра іх сёння гаворка.

Возьмем напачатку хаця б тых, хто яўна і відавочна шукае і знешнюю нетрадыцыйнасць, і формы, прынцыпы, накірункі еўрапейскіх, дакладней, заходнееўрапейскіх літаратур. На жаль, тут нямала пераемнасці чыста павярхоўнай, як, скажам, у чалавека, які, надзеўшы адпаведную вопратку, яшчэ не выпрацаваў усіх манер і норм паводзін, якіх вымагае ягонае адзенне. Я вельмі прыхільна, з вялікай надзеяй стаўлюся да творчасці аднаго з лідэраў гэтай плыні Л. Дранько-Майсюка, з задавальненнем прачытаў ягоную нядаўнюю кнігу вершаў «Тут», ды ўсё ж, плённа шукаючы сваё месца «за столікам адной з кавярняў Манмартра, пад вокнамі якой цячэ рэчка Гарынь» (па выразу В. Акудовіча), паэт часам пераігрывае, губляючы сваю натуральнасць. У Леаніда Галубовіча ці Сержука Сокалава-Воюша такое, заўважым, здараецца радзей.

Справа ж, па-мойму, не толькі і не столькі ў форме, не ў канкрэтных рэаліях — Брусель гэта ці Ушачы, а ў той глыбіннай энергіі думкі, радка, пачуцця, у скіраванасці філасофіі, у адчуванні Сусвету і свайго месца ў ім.

Мне вельмі імпануюць, да прыкладу, апошнія вершы Людмілы Рублеўскай, з якіх

**ПРАЦЯГ РАЗМОВЫ**

**Сёння мы змяшчаем два водгукі на артыкул Валянціна Акудовіча «Пошукі страчанага вобраза» «ЛіМ» за 8.03.1991]. Іх аўтары розняцца як у падыходзе да праблемы — увогуле няпростай, так і ў ацэнцы самога матэрыялу. Відавочна, што гаворка пра карані беларускага менталітэту не вычарпана, яна, спадзяёмся, будзе прадоўжана.**

# У ПОШУКАХ СПРАДВЕЧНАЙ ІСНАСЦІ,
## а не ўяўна «страчанага вобраза»

Апаненцкі этыкет патрабуе кампліментарнага пачатку, ці, на крайні выпадак, далікатнай сумесі пахвалаў і закідаў з абвязковымі прабачэннямі. І я перапрашаю, бо пра артыкул «Пошукі страчанага вобраза» В. Акудовіча («ЛіМ» за 8.03. г.г.) адразу пачну без пратакольных далікатнасцяў.

На мой сціплы розум, выйшла нешта не тое з загалоўкам, асабліва, калі яго ўспрымаць як пастаноўку праблемы. Тут альбо залішняя дэтэктывізацыя, каб заінтрыгаваць чытача, альбо, яшчэ раз перапрашаю, недахоп адказнасці. Ні пачаўшы, ні скончыўшы чытаць матэрыял, я не знаходзіў адказу на пытанні: «Што, калі, кім страчана? Які канкрэтна вобраз вырашыў шукаць мой паважаны калега? Ці ёсць у яго методыка вызначэння страчанага-наяўнага- шукаемага? З кім і дзеля каго ён кідаецца ў пошукі?..»

У першых ужо радках нас чакаюць знаходкі, прычым блізкія да адкрыццяў: «Нельга сказаць, што прага ведання, прага ісціны была характэрнай рысай нашага народа. Аднак калі для ведання адкрываліся магчымасці, заўсёды знаходзіліся людзі, якім карцела разблытаць тайну маўклівага этнасу».

Зыходная тэза сведчыць, што яе аўтар не проста апантаны тайнашукальнік, але і праніклівы знаўца народа. У галіне характаралогіі па методыцы «разблытаць-заблытаць» ён ужо мае і адпаведны плён, і акрэсленыя перспектывы. Ён і гэтым разам улічыў «характэрную рысу» нашага чытача, які не пакутуе ад «прагі ісціны», затое гатовы, як юны піянер, падацца ў пошукі, бо заўжды спагадае таму, хто страчвае.

Мой калега, напрыклад, канчаткова высветліў наступнае: «Хаця беларусы і славянскага напалову (напалову балцкага) кораня, але зусім не «расейскага», як чамусьці прынята лічыць, а еўрапейскага паходжання». Вось як трэба разблытваць «тайну»! Галоўнае — не задаваць пытанняў, ні сабе ні іншым, пра яўныя супярэчнасці: якая розніца паміж «коранем» і «паходжаннем»? Кім было «прынята лічыць», што кораня **зусім** «расейскага»? Чаму ламаюць навукоўцы не заўсёды цёмныя галовы над улікам іншых складнікаў і чыннікаў этнагенезу — анцкага, вендскага, сармацкага, скіфскага, гоцкага, обрскага, яцвяжскага?.. Нашто прыдумалі нейкі «праславянскі феномен Белай Русі», вядуць спрэчкі аб розных этнасацыяльных формах, рознаскіраваных працэсах фарміравання этнічных супольнасцяў, у тым ліку цяперашняй беларускай, з многіх плямёнаў?

Што ж, да гэтага можна ставіцца як да чужога гора ад розуму і не звяртаць увагі. Проста, як садоўнік-аматар на нядаўна прыдбанай дачы, «спалавініць» карэнне і чакаць грушы-дулі еўрапейскага гатунку на сваім шыпшынніку. А яшчэ прасцей «адцягненай думкай» цешыцца — той самай, у адносінах да якой салідарызуешся цытуючы «адзін пасаж старэйшага з братоў Кірэеўскіх». Тым болей, калі сэнс цытаты не бачыш у праекцыі на свае канцэптуальныя задумы, бо там чорным па белым напісана: «Падмяніць літаратурнымі тэрмінамі карэнныя перакананні народа гэтак жа лёгка, як адцягненай думкай перасунуць косці» (ці распалавініць корань. — **І. Ч.**).

Цікавы занятак — палавініць. Нават у такім выпадку: «Мы — Францішак Скарына, а не Сімяон Полацкі...» Тут можна паказаць цуд эквілібрыстыкі маўлення і скончыць вось як: «...хаця Сімяон Полацкі — гэта таксама мы», задаволіўшы нават тых, хто ніколі не бачыў падставы сумнявацца ў апошнім і не ладзіў адвольнага супрацьпастаўлення гэтых велічных постацяў розных эпох адпаведна беларускай, усходнеславянскай, усёй славянскай, еўрапейскай і, у рэшце рэшт, сусветнай культуры.

У мяне, як і ў паважанага В. Акудовіча, «зусім няма жадання зараз кранацца палітыкі, але...» Але і ў гэтым, закранутым усё ж аспекце, не пакіне раўнадушным, па-мойму, нікога аўтарытэтна прамоўленае: «...Вось-вось узнікне пытанне: Расія і Мы». Што на гэта можна сказаць? А што хочаш. Як прароцтва гэта магло ўспрымацца толькі ў данастрадамусаўскую эпоху, а мы існуем з такім пытаннем ад самага ўзнікнення Расіі і заўсёды адчуваем яго значнасць.

Іншая справа, **што і як** адкрывалася ў ім з розных гістарычных перспектыў ды рэтраспектыў, па чым арыентавацца, выбіраючы пункт гледжання цяпер.

Ёсць сэнс абмеркаваць як мага большую колькасць магчымых варыянтаў у ацэнках і мінулага, і будучага; толькі пры ўмове, што ідзём да гэтага з прагай ісціны, а не ісцінай гатовай, прыдатнай усім на ўсе часы.

Гістарызм, падсвечаны хоць трохі адпаведнай філалагічнай інфармацыяй, павінен наводзіць на сумненні ў праванмернасці не толькі супраць,- але і су-пастаўляць «Я памятник себе воздвиг нерукотворный...» і «Я не паэта, о крый мяне Божа!..» Уважлівы чытач мог заўважыць тры памылкі ў працытаваным радку Купалы, ды нас цікавіць не павярхоўнае, а логіка спасціжэння «тайнага» ў наступным вывадзе: «У гэтых «помніках»... прачытваецца адказ на пытанне: каму якімі духоўнымі здабыткамі і стратамі абярнулася эпоха тых войнаў». (Тры абзацы вышэй было сказана: «...беларусы... ваявалі пераважна з Вялікім княствам Маскоўскім...» — **І. Ч.**).

Могуць запярэчыць мне: хіба ж не было «супрацьстаяння з Расіяй»? Было. І ёсць — у тым, што закранаць не хацелася ні Акудовічу, ні мне, — у палітыцы. Найперш і найбольш. А пра ўсё іншае можна разважаць памяркоўней. І недаравальна, калі мы, палохаючыся адрозненняў, будзем запар выкасоўваць усё агульнае, адкідаць непадзельную спадчыну старажытнасці, далёкага і не надта мінулага, сённяшнюю лучнасць.

Каб спаразумецца, не лішне акрэсліць дакладна сэнс ужытых паняццяў. У свядомасці нацый завязваюцца розныя суадносіны складнікаў менталітэту: і містыцызм, і інтэлектуалізм, і фаталізм. Пры іншым, метафізічным падыходзе немагчыма будзе вызначыць, дзе месца «маўклівага этнасу», чаго ён маўчыць — ад містычнай заклапочанасці альбо інтэлектуальнай перагрузкі.

Як ні круці, а трэба пагадзіцца, што пастаўленая праблема павінна разглядацца не проста з розных бакоў. Яна мае і не адзін узровень.

І «еўрапейская ідэя» пакуль што набывае інтэгральны сэнс толькі на палітыка-эканамічным узроўні. А тое напаўненне, якое спрабуе ўнесці В. Акудовіч, не акрэсліваецца.

Ідэя «руская» асветлена ім таксама павярхоўна-палітычна, у той час, калі перадумовы яе зараджэння і чыннікі далейшага замацавання ці не рэлігійныя, пра што аўтар артыкула «Пошукі страчанага вобраза», на жаль, ані слоўца не сказаў.

Няма патрэбы навязваць усім «рускую ідэю», але шкоду наносіць спрошчанае ўяўленне аб Еўропе, па якой, дарэчы, пачала блукаць славутая «здань», у якой нарадзіліся і вядомыя «тры складовыя часткі» той самай «агульнай для ўсяго чалавецтва канструкцыі светабудовы», што В. Акудовічам пераадрасоўваецца Расіі.

Не спяшаючыся з ацэнкамі, прызнаем, што наша светаадлюстраванне замацавалася ў еўропацэнтрычнай мадэлі, значэнне якой, калі меркаваць па сучасных палітычных тэндэнцыях, не страціцца і ў агляднай будучыні. Толькі не варта нам упадаць у эйфарыю і абвяшчаць, што ўзбагачаем (і мадэль, і Еўропу) «ідэяй Беларусі як звычайнай Еўрапейскай краіны, падобнай да Аўстрыі, Венгрыі, Чэха-Славакіі». Найперш усвядомім, што празмернае жаданне быць падобным да прыгожых і самавітых — гэта хвароба ці ўзросту, ці натуры. Потым прыкінем, што названыя краіны за кароткі тэрмін зведалі, у адрозненне ад нас, шэраг перагрупавак-пераходаў, працэс яшчэ не завершаны, але ідэя колішняй магутнай Аўстра-Венгрыі не рэанімуецца. І

я вылучыў бы падборку ў трэцім нумары часопіса «Крыніца». Пастаянна падкрэсліваючы сваю повязь з рэаліямі роднага краю, асэнсоўваючы яго гісторыю і славутыя постаці землякоў, Людміла несумненна адыходзіць у лепшых сваіх вершах ад местачковасці, абмежаванасці вузкіх нацыянальных праблем. У прынцыпе гэта лішні доказ таго, што глыбока і па-сапраўднаму нацыянальнае можа і павінна быць сусветным, агульначалавечым.

Ды... Гартаю часопісы, чытаю новыя зборнікі і салідныя тамы і бачу, як гэты правінцыялізм, гэтыя страсці «мясцовага значэння», траскучыя дэкларацыі і лозунгі ох як уладна яшчэ вядуць рэй на папяровых прасторах:

**Братніх моў зіхатлівы вянок,**
**Ён нас лучыць,**
**У шчасці і горы яднае.**
**Толькі той,**
**Хто аддаў на збядненне**
**Свой родны выток,**
**Той не кветкі ў сувой —**
**Пацяруху нямую ўплятае.**

Ці вось якой радасцю дзеліцца са сваім чытачом аўтар:

**Пад лясістай Святой гарою,**
**Дзе і зараз жывуць багі,**
**Зноў сябе дабрынёй узброю**
**І забрала здыму тугі...**

І гэта творы не пачаткоўцаў, а прафесіяналаў, што выпусцілі ўжо не адну кніжку...

Па-ранейшаму халодна і парамесніцку эксплуатуюцца часам святыя і горкія для беларусаў паняцці — мова, народ, спадчына, Чарнобыль, не-не ды пракідваецца «адвечная песня» пра настальгію гараджаніна аб патрыярхальнай вёсцы, пра няўдзячную моладзь, што збегла ў гарады...

— Але ж гэта ўсё ёсць, — запярэчыць мне мой абураны апанент, — творца ж піша жыццё! А гэта актуальна, гэта надзённа, гэта хвалюе...

Усё праўда, але... Ніколі не быць нам годнымі, ніколі не атрымаць папулярнасць у чытачоў, калі не скінем мы з сябе гэтыя путы, гэтыя вярыгі правінцыйнасці, «сіюмінутнага» водгуку і рэпартажнасці.

Я, дарэчы, зусім не адмятаю пошукаў нашых літаратараў на ніве традыцыйных, нават у нечым і старасвецкіх, магчыма, поглядаў і з'яў, абы гэта было напоўнена сапраўдным талентам і непадробнай шчырасцю, а той страчаны вобраз, пра які гаворыць В. Акудовіч, прыйдзе і на тую дзялянку, бо іншага шляху ў самасвядомасці проста няма.

Дык якая ж яна, натуральная духоўная беларуская традыцыя ў канонах еўрапейскай эстэтыкі? Думаю, што паўней адказаць на гэтае пытанне здолее толькі сам літаратурны працэс. Сёння, асэнсоўваючы будучы лёс роднай літаратуры, прыходзіш да вываду, што нам як ніколі патрэбныя работа душы, гранічная шчырасць, прыстойнасць і самаахвярнасць. Гэтыя рысы заўсёды былі жаданымі для літаратараў, але ў нашым сённяшнім становішчы яны выступаюць як неабходная ўмова, як гарант поспеху.

Таму погляд на пісьменніка як на спрактыкаванага ўмельца і спажыўца атрыманых за сваё умельства выгодаў павінен істотна змяніцца. Нам патрэбна стаць мулярамі і цеслярамі будучага храма нашай культуры, нашага красамоўнага пісьменства, бо толькі намаганнямі кожнага, нягледзячы на магчымую няроўнасць укладу, можна трывала і грунтоўна будаваць гэты велічны і прыгожы храм.

**Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ.**
г. Наваполацк.

---

хто возьмецца прарочыць, як пойдзе далей аб/раз/'яднанне?

Шырокі дыяпазон пачуццяў выклікаюць развагі В. Акудовіча, як, напрыклад, разумець наступнае: «...Беларуская літаратура амаль не ставіла перад сабой пытання: хто ён такі, беларус? Адкуль прыйшоў і куды ідзе?»

Гэта ўжо, згадзіцеся, можа ашаламіць, прымусіць нанова высвятляць, мелі ці не мелі дачыненне да беларускай літаратуры, напрыклад, Я. Баршчэўскі, Ф. Багушэвіч, А. Гурыновіч, Я. Лучына, Цётка, Багдановіч, Купала з яго славутым «...А хто там ідзе?»

А яшчэ ў Купалы ёсць верш «І прыйдзе» з кампліментамі «новым пакаленням», якія павінны «судзіці суд». Аўтар там ставіць не ўсе пажаданыя пытанні, затое выказвае наіўнае спадзяванне, што гісторыя ў асобах прадстаўнікоў гэтых самых пакаленняў «...аглядам гляне рупным і разбярэ, у чым справа... У сведкі запісы пакліча, Паданні клікне ў час такі! І ўсё паліча, пераліча...»

Відавочна і бясспрэчна, што гэта не пра нас, якім нічога не кажа перасцярога: «А суд гісторыі цяжкі!..», якім недаспадобы займацца рупнымі аглядамі, а тым болей нейкімі там падлікамі-пералікамі, а куды прыемней разважаць над «першапачатковай сутнасцю, разбэрсанай фатальным светапоглядам на адзінкавыя і спавітыя талерантнасцю тоеснасці», любамудраваць над зіхоткімі «формастваральнымі ідэямі, арганічнымі еўрапейскаму менталітэту», пра які «наўрад ці ў каго атрымаецца» хоць якое акрэсленае ўяўленне.

Вось ад чаго «мы не маем права адмовіцца». Ад усяго астатняга — калі ласка, нават з радасцю, бо апрыёрна вызначылі, што формастваральныя ідэі, арганічныя ўласна беларускаму менталітэту, беларускі «духоўны генатып» (П. Фларэнскі), беларускія «вобразы свету» (Г. Гачаў)... страчаны. Дык хіба гэта не нагода, каб мы спявалі асану, а нехта пад такія спевы зацята шукаў **там**, у Еўропе, «карэнныя перакананні народа», нават калі сам народ (!) «у сілу гістарычных абставін» забыўся на гэта.

Дапускаем, што знойдуцца і шукальнікі, і тыя, хто пажадае спяваць асану ці складаць новую легенду пра новага Данка. Але пры гэтым лагічна таксама згадзіцца, каб нехта шукаў і **тут. Што шукаць?** А тое, што насуперак розным тэндэнцыям у гісторыі і гістарыяграфіі, культуры і культуралогіі не страцілася-такі, засталося ў «спрадвечнай існасці» (У. Дубоўка). Напрыклад, вобразы, метафарычныя знакі, міфалагемы, якія перадаюцца з пакалення ў пакаленне і ў сучаснай свядомасці замацаваны больш за ўсё мастацтвам.

У дачыненні да беларускага аспекту пастаўленай праблемы не лішне як след асэнсаваць думку пра тых нашых папярэднікаў, якія арыентаваліся на Еўропу за паўтара-два стагоддзі да нас з В. Акудовічам: «...Гэтыя пісьменнікі, падхопленыя вірам заходніх ідэй, змялелі ў наследаванні, не развівалі ўласнага духу, не ткалі канвы з саміх сябе... У іх творах не адлюстраваліся ні мясцовасць, ні дух краю...» (Р. Падбярэскі).

Ды ўсё гэта, пэўна, ніякім чынам не павінна перашкаджаць шаноўнаму калегу класіфікаваць «нармальных еўрапейскіх пісьменнікаў» па крытэрыях, сярод якіх, бадай што, самым вызначальным з'яўляецца факт нараджэння ў еўрапейскім горадзе Мінску, у сувязі з чым адпадае задача куды-небудзь вяртацца.

Ну а ўсіх астатніх, каму Бог не даў такога шчасця, мне б хацелася суцешыць, бо могуць з'явіцца і іншыя класіфікацыі.

**Іван ЧАРОТА.**

---

# Віншуем!

**Васіль Вітка... Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР і Міжнароднага Ганаровага дыплома імя Х.-К. Андэрсана, заслужаны дзеяч культуры рэспублікі... Гэтыя ганаровыя званні падмацаваны дзесяткамі кніг паэзіі, твораў для дзяцей, прозы, публіцыстыкі, якімі зачытваецца ўжо не адно пакаленне.**

**У гэтыя дні Цімох Васільевіч адзначае сваё 80-годдзе. Віншуючы яго, былога галоўнага рэдактара «ЛіМа» і па сённяшні дзень нашага пастаяннага аўтара, з юбілеем, жадаем і надалей не страчваць творчай бадзёрасці, аптымізму.**



# У ТРОХ ВЫМЯРЭННЯХ...

У маёй хатняй бібліятэцы, не дужа багатай, але і не зусім ужо беднай, сабрана амаль усё, што напісана і выдадзена Васілём Віткам ледзь не за паўстагоддзя. «Вернасць», «Ружа і штык», «Паверка», «Вышыні святла», «Случчына», «Для дома, для альбома і трохі для эпохі», томікі і тамы выбранага. Гэта — для дарослага чытача. Галоўным чынам — лірыка. А вось і для дзяцей: «Вавёрчына гора», «Буслінае лета», «Казка пра цара Зубра», «Зайчык-вадалаз», «Дударык», «Азбука Васі Вясёлкіна», «Чытанка-маляванка», «Хто памагае сонцу», «Мы будуем метро», «Загадка пра зярнятка»... Ёсць і для чытачоў любога ўзросту — «Беларуская калыханка», «Мінскія балады»... Асобна стаяць кнігі трылогіі — «Дзеці і мы», «Урокі», «Азбука душы». Не хапае хіба школьных падручнікаў для першага і другога класаў — «Роднае слова», створаных пры непасрэдным удзеле Васіля Віткі.

З аднаго гэтага, не зусім поўнага, пераліку відаць, з якім багатым плёнам прыйшоў творца да свайго 80-годдзя. Ды ці ў колькасці справа? Хіба мала на нашым вяку было прыкладаў, калі пісьменнік дасягаў, здавалася б, вяршыняў усеагульнага прызнання і славы, а потым... Потым шматтысячныя тыражы выданняў і перавыданняў заставаліся незапатрабаваным таварам ляжаць на паліцах кнігарань. І дасюль ляжаць некаторыя...

А паспрабуйце знайсці ў мінскіх кнігарнях творы Васіля Віткі. Як кажуць — днём з агнём. Асабліва — для дзяцей. У чым жа справа? Я думаю, у важкасці слова, у глыбіні думкі, у мудрасці развагі. Гэта датычыць і паэзіі, і прозы, і філасофска-педагагічных выказванняў і назіранняў, і нават самых просценькіх, на першы погляд, вершаў для дзяцей. У любым жанры, у любой галіне літаратуры Васіль Вітка застаецца верным сабе, верным сваім перакананням, сваёй грамадзянскай і творчай пазіцыі. А гэта даецца толькі сапраўднаму таленту. Ці, можна сказаць, ад Бога...

**Ні адзін творца, які б ён ні быў таленавіты, не можа цалкам пазбегнуць залежнасці ад асяроддзя, у якім ён жыве і творыць, ад сацыяльнага і маральнага стану грамадства, ад палітычнай сітуацыі. Сёння, гартаючы старонкі кніжак многіх маіх калег па літаратуры, як, дарэчы, і сваіх уласных, думаю: якія ж мы былі сляпыя і неразумныя! Колькі з напісанага намі, як для дарослых, так і для дзяцей, самім часам асуджана пайсці ў макулатуру. Ці, у лепшым выпадку, застацца сведчаннем нашай слепаты ў павучанне тым, хто ідзе за намі следам.**

Васілю Вітку гэткае не пагражае. Чаму? Бо ён ніколі не намагаўся дагадзіць некаму. Бо, паўтаруся, заўсёды заставаўся самім сабой. Бо цвёрда стаяў на зямлі, якая яго ўзгадавала. Бо ні пры якіх варыяцыях і паваротах лёсу не забываўся на матчыну калыханку. «З тых дзён, — сведчыць ён сам у аўтарскай прадмове да кнігі паэзіі «Случчына», — як я пазнаў жыццё, прыгажосць чалавечай душы я адкрываў праз матчыну песню... Толькі для таго, хто спазнаў любоў, надзеі і трывогі матчынай песні, адкрываюцца пасля ўсе найвялікшыя духоўныя багацці многіх пакаленняў людзей». Не магу ўтрымацца, не магу не сказаць: дзякуй, Цімох Васільевіч, за адкрытасць! Дзякуй за тое, што вы так шчодра і шчыра дзеліцеся з кожным сваім чытачом галоўным сакрэтам поспеху ў творчасці. Дзеля навукі многім з нас...

Цяжка пісаць пра творцу, які ў сваіх кнігах сказаў пра сябе больш, чым мог бы сказаць нават самы дапытлівы біёграф ці даследчык. Не, Васіль Вітка зусім не ўпадае ў захапленне ад сваёй уласнай асобы. Проста, калі чытаю яго творы, перада мной сам сабой вымалёўваецца праўдзівы вобраз аўтара. І вобраз гэты цалкам адпавядае як вонкаваму абліччу, так і духоўнаму зместу таго Васіля Віткі, якога я ведаю ў жыцці. А мне, магу прызнацца, пашанцавала. Пашанцавала таму, што памагаў яму больш як трыццаць гадоў назад рыхтаваць да друку першы нумар часопіса «Вясёлка». Пашанцавала таму, што воляю лёсу стаў адным з першых чытачоў «Буслінага лета» і «Казкі пра цара Зубра», прысутнічаў пры нараджэнні аднаго з найбольш любімых дзецьмі герояў Віткавых паэм і вершаў — Васі Вясёлкіна.

**З адлегласці часу разумею, як шмат атрымаў я ў тыя незабыўныя гады ад свайго старэйшага таварыша, сябра, настаўніка. Так, настаўніка. Не толькі для мяне. Для многіх. У тым ліку і для чытачоў. Дарослых і маленькіх. Талент настаўніка надзвычай натуральна спалучаецца ў Васіля Віткі з талентам паэта. Мне даводзілася бываць на яго сустрэчах з дзецьмі, прысутнічаць на яго ўроках у школах. І вось што цікава: нават у самых павучальных вершах яго адсутнічае дыдактыка, затое настаўніцкая дзейнасць наскрозь прасякнута паэзіяй. Ён знаходзіць паэзію нават у арыфметыцы...**

Я сказаў «настаўніцкая дзейнасць» і спахапіўся. Не, гэта не дзейнасць. Гэта патрабаванне душы. Васіль Вітка — педагог па прызванні, па складзе характару, па спосабе мыслення. Зноў жа такі — ад Бога. Як і паэт...

Каторы раз ужо бяру з паліцы кнігу ў чорнай супервокладцы. Апошнюю са згаданай ужо трылогіі. «Васіль Вітка. Азбука душы. Традыцыя, пошук, эксперымент». Які багаты сэнс і ў самой назве кнігі і ў вызначэнні жанру! І тут — вынік сур'ёзнага роздуму, сапраўднай мудрасці ў спалучэнні з паэзіяй. А якой любоўю да роднай зямлі, да яе людзей, да землякоў-случакоў, да тых, каго аўтар лічыць сваімі настаўнікамі і сябрамі, прасякнута кожная старонка! Колькі клопату пра лёс дзяцей нашых і ўнукаў! Колькі болю за занядбанае роднае слова...

З вокладкі, нібы выхаплена з цемры, высвечваецца аблічча суровага і добразычлівага, мудрага і дасціпнага чалавека. Ён думае. Пра што? Ці не пра тое, што аднойчы ўжо выказаў сам? «Я не бачу сваёй біяграфіі без людзей, паміж якіх я жыў і жыву, якіх любіў і люблю. Неабходнасць расказваць пра іх вымагаецца патрэбаю гаварыць не толькі сам-насам з сабою, але і з імі — жывымі, і з тымі, якіх ужо няма на свеце, але якія асталіся ўва мне самім, бо чалавек жыве адначасова ў трох вымярэннях: сучасным, мінулым і будучым».

Не сумняваюся, што ўсе гэтыя тры вымярэнні падуладны Васілю Вітку, яго шматабсяжнай творчасці.

У кнігах для дзяцей ёсць у Васіля Віткі верш, які пачынаецца такімі радкамі:

**Жыў на свеце дзед Васіль,**
**За плячыма мех насіў.**

**Дазналіся мышкі,**
**Што ў мяшэчку кніжкі...**

Мышкі, вядома, разгрызлі завязкі і сталі склікаць дзяцей. А канчаецца вершык так:

**Падыходзьце, малышы,**
**Кожнаму пацешка ёсць!**

**Дзед Васіль, а ты пішы**
**І яшчэ нам прынось!**

Ну, як не далучыцца да гэтага пажадання?

Добрага здароўя Вам, дзед Васіль! Творчага натхнення! Пішыце! Пішыце на радасць нам усім — дзецям і дарослым.

**Артур ВОЛЬСКІ.**

---

# А ЧАСУ НЕ СТАЕ...

Васілю ВІТКУ

**На такой зайздроснай вышыні,**
**можа, нам няма чаго баяцца:**
**год мінуў, або прабеглі дні —**
**толькі б неяк весяліла праца.**

**Слаўны час! Каля твайго ж двара,**
**з гаманкім, занадта звонкім садам,**
**дзень пры дні пасецца дзетвара**
**і заўжды табе й бацькам на радасць.**

**Ёй расці, ёй набірацца сіл**
**і, затым, угледзіць зноў навокал**
**родны свет нанова, неба сінь,**
**што ў тваёй паэзіі высокай.**

**З-пад старой сядзібы, як раней,**
**вее свежым водарам здаровым;**
**добра жыць здаўна ў суседстве мне**
**ды ў сяброўстве з тваёй думкай-словам.**

**Працы шмат, а часу не стае**
**усё болей і балючай, дружа...**
**хай не вянуць любыя твае**
**пад парканам ружы,**
**мята й ружы.**

**Аляксей РУСЕЦКІ.**

**Павел ШРУБ**



# Магікане

Засыпалі вочы яго —
жывыя крыніцы.
Паатручвалі кроў —
рэчкі і рэкі.
Сцерлі памяць аб продках —
кляштары, камяніцы.
Зубы выбілі ўсе —
не баліць, як няма зубоў.
Адкусілі язык —
за яго скажуць тое, што трэба,
скажуць так, каб ён слухаў,
ад шчасця разявіўшы рот,
што прад ім далеч ясная,
а над ёю блакітнае неба
і што ён расквітнеў,
як ніводзін на свеце, народ.

●

У далёкіх вандроўках
прарастае вяртанне дадому,
у маўклівых воблаках —
звонкае рэха грому.

Прарастае ў трывогах начы
ружовая надзея ранняя...
...А я спрабаваў ссячы
тонкае дрэўца кахання.

Думаў я — быць бядзе,
мне каханне пашкодзіць.
Яно ж горкай калінай цвіце
на чужым агародзе...

Стаць бы мне разумней,
а я ўсё ссякаю —
то балотны палескі глей,
то мову бацькоўскага краю.

Сяку — калі што, адрасцe!
Я прасякнуты вераю гэтаю:
Адрасце: але як і дзе —
не пытайцеся: я не ведаю...

Ссякаю храмы і гарады
і не бачу, што раны не гояцца.
Я дарос — прымайце ў свае рады,
самазабойцы!

# На ўсялякі выпадак

Ведаю: гэта нягоднік,
ведаю, што ў яго радня,
а гэты — труцень і шкоднік
з сувязямі не маім раўня.

Ведаю: такое робіцца,
за што — сядзець бы ў турме,
а шэф, што гуляе ў Еўропе,
у справах ні бэ, ні ме.

Сёння мой дом — мая крэпасць,
а я ж не так жыць хачу!
Я ведаю, што рабіць трэба,
ведаю,
але маўчу...

●

Разбіты асенні шлях
у замшэлых таполях.
Там у чорных палях
вольная воля.

Там юнацтва маё
адкаласіла.
Там каханне маё
адгаласіла.

Гэтым шляхам я бег
на спатканне з дзяўчынай,
што на ўвесь белы свет
застаецца адзінай.

Кожны колас жадаў
мне шчаслівай дарогі,
мяккі пыл саграваў
мае босыя ногі...

А зараз амаль
на кроку кожным
за калошы чапляе
парыжэлая пожня.

Мы па чорных палях
прайшлі, нібы робаты,
і дарэмна ты, шлях,
з нас сцягваеш чобаты.

●

Схлусіў першы раз —
і пачырванеў,
схлусіў другі —
і адвёў вочы,
схлусіў трэці раз —
нічога з ім не здарылася,
толькі недзе ў галактыцы
памерла зорка.

●

Руды чарнобыльскі лес,
Наваполацка жоўтыя хмары,
пад Старобінам Эверэст
і палеская Калахары,
воды мёртвыя, што ні плёс,
мовы крынічка вузкая —
ці не замнога дзівос,
зямля мая беларуская!

# Чорная бяроза

Малюю бярозу напаўсатлелую
з паўзасохлым голлем.
Малюю яе над пустыняй белаю —
над абветраным полем.
Малюю яе вузлаватыя рукі
і скуру шэрую,
малюю яе перажытыя мукі
і яе нявер'е...
Прыходзяць старэйшыя,
кажуць: «Зірні,
надта ж чорная...
Галіны, якія даўно ў парахні,
зрабі зялёнымі».
Малодшыя кажуць:
«Вы б ссеклі даўно,
ужо вырасла б новая,
такая, як бачылі мы ў кіно:
каляровая».
Бяроза маўчыць і я памаўчу—
не скажам нічога.
Хай будзе кожнаму сваё па плячу,
свая дарога...

●

Палескія мужыкі —
земляκі мае, земляκі!
За Вашымі плячамі
вёска з яе карчамі,
што вучаць, як зямлю араць,
калі сеяць, калі ўбіраць,
кукурузныя джунглі за Вамі.
Лес з «галінкавымі кармамі»;
за Вашымі плячамі хата,
а ў ёй, як вядома, ўсяго багата —
не адны толькі кумпякі,
а й трыццатыя, саракавыя,
пяцідзесятыя дні-вякі.

Дзіва, як цягнеце Вы,
не схіліўшы ні раз галавы.
Палескія мужыкі,
землякі мае, землякі!
Прад Вамі скінулі б шапкі
рэпінскія бурлакі...

**Юрка ГОЛУБ**



# Сеюць зоры жалобны прысак...

## Папярэднік

Не было яму «варыянтаў»,
Дзе і як, і калі спачыць.
Зажадалі ў яго вар'яты
Адабраць чалавечы чын.

Ён ніколі не быў заморкам,
Сілу розум трымаў рукой.
Кроў лілася ракой не з морквы,
А з людскoе бяды — ракой.

І вусаты наладчык ёрмаў
Не начамі тады драмаў,
А тады, калі людзі мёрлі,
Асвінячаныя дарма.

Варкуцінскае шахты глыба
І інцінскае тундры гнус
Пазначалі тваю пагібель
І ўваскрэсенне, беларус.

На застылае чарнагор'е
У абдоймішча мерзлаты

**Уладзімір СІЎЧЫКАЎ**



# МАНАЛОГ

**Навела**

— Ну, ЧАГО ТЫ, Рэгіна, пазіраеш на мяне гэтак дакорліва? Сама ведаю, што лупцаваць дзяцей непедагагічна. Але што рабіць, калі не стае ўжо аніякага трывання? Папярэджвала ж яе—не чапай майго адзення, не лезь у касметыку! Дык не, зноў за старое! Пазалетась, ведаеш, што вычварыла была? Павыразала нажніцамі ружы з маёй сукенкі—чорная такая была, у буйныя кветкі—дый панашывала на сваю джынсавую спадніцу!

Бывае, праўда, што сярдуюць, дзьмуцца адна на адну, але хутка мірацца. Сабіна мая, ведаю, трохі раўнуе Алу да Віктара, з якім тая таксама сябруе. Добры хлопец, з інтэлігенцкае сям'і... Але за тое сяброўства з дзяўчынкаю аднакласнікі збіваюць Віктара да крыві. Ці ведаеш ты, што такое дзіцячы садызм? Учора вунь, Сабіна казала, падушылі нагамі на падлозе шакаладныя цукеркі, якія ён прынёс у клас на свой дзень

Вось і сёння глянула я — зноў не так вісіць мой новы бельгійскі гарнітур. Такія грошы аддала, па знаёмстве даставала — і што ты думаеш?! Пазапэцкала белую манжэту ў туш для веек. Яна і так зарабіла за тыдзень. А тут я ўжо не стрымалася, адхадзіла скакалкаю як след — на нагах сінія пісягі пазаставаліся. І перад кім фарсіць, перад кім расфарбоўвацца? Перад люстэркам круціцца ці перад суседскай Алаю, што з сёмага паверха?

Думаю, што гэта з ёю Сабіна падгаварыла суседскіх малых кідацца па прахожых шарыкамі, налітымі вадою. Ну, добра, аднагодкі паміж сабою пырскаюцца вадой, кідаюцца глыскамі — гэта я яшчэ магу зразумець. Але падвучыць малых шпурляць з балкона сырымі яйкамі па жанчыне, што прагульваецца з немаўляткам у калясцы — гэта ўжо занадта. «А каб ты,— кажу Сабіне,— на яе месцы аказалася? Прыемна табе было б?!» Маўчыць, пазірае вінавата, відаць, што шкадуе. Сёння вунь нават укленчыла перада мною, плакала дый казала: «Мамачка, даражэнькая, я ў цябе анічога прасіць не буду. Пачнём эканоміць і толькі табе ўсё купляць!»

Пасапвае вунь цяпер, спіць, нібыта анёлак. А ўрокі ці парабіла тут без мяне? Сумняваюся... Дый трэба бачыць, як яны з Алаю свае ўрокі робяць. Сядзяць поруч за сталом, пішуць. Адна раптам падгледзіць, локцем штурхане, другая ў адказ саечку дасць, і зноў сур'ёзныя твары зробяць. Потым зноў за сваё. Я ўчора ў пакой зазірнула, дык ледзь утрымалася, каб не засмяяцца.

нараджэння. Як хварэў, дык Ала насіла яму дадому хатнія заданні, дапамагала, каб не адстаў па вучобе. А аднакласніцы наладзілі за гэта байкот — не размаўляюць з ёю. А мая Сабіна спачувае ім...

Я дык наогул лічу, што ў нас яшчэ з дзіцячых садкоў нявечаць дзяцей. Каб можна было б, не пусціла б сваю і ў школу. Хутчэй бы ўжо адкрывалі прыватныя ці хаця б эксперыментальныя гімназіі ды ліцэі! А то вось і ў нашай школе дзікія нормы, хоць і лічыцца яна ледзь не ўзорнаю. Класы «А» ў ёй харавыя, здавалася б, дзеці павінны быць больш-менш культурныя. Ды дзе там!

Не, мая не спявае. Скочыла сёлета праз адзін, з пятага — ажно ў сёмы клас «Б». Штодня прыходзіць узбуджаная, дзеліцца ўражаннямі ад новае школы. «Белачка» з «русалкаю», кажа, файныя цёткі. А геаметрыю амаль што ўсе спісваюць у выдатнікаў, бо матэматычка па пяць разоў тое самае тлумачыць, ды паўкласа анічога не можа зразумець.

Колькі ўжо забараняла ёй абгаворваць настаўніц, абмяркоўваць іх рашэнні — не дапамагае. Канечне, можаш лічыць, што я бурчу, але здаецца, што мы ўсё-такі больш выхаванымі раслі. А сёння вось даводзіцца наракаць адно на аднаго — сям'і на школу, школе на сям'ю. Выбачай за банальныя словы, але мяняецца час, мяняюцца і каштоўнасці. Прэстыжна вучыцца ўжо не ў педінстытуце, а ў наргасе, працаваць не інжынерам, а барменам або таваразнаўцам. Да таго ж павыжывалі са школы

Не залёг ты звяр'ю на гора,
А ўзляцеў, нібы дух святы.

Зруйнавалі эпохі прыск,
Завалілі рэжыму штрэк.
Сеюць зоры жалобны прысак
На ўчарнелыя стужкі рэк.

Адамкнула нам праўда вуха,
І зямляк уваскрос ізноў.
Ён з аблічча — як чорны вугаль,
І душой залаты — як сноп.

## Балючае

За якія грахі
Сталі плошчы карыдай!
Метад: вушна-глухі.
Вынік: біта-карытны.

Памірай, але сей!
Годзе словамі плюскаць.
Ды не хоча сусед
Адазвацца па-людску.

Той —
на сцежцы прамой.
Той —
па шляху крывому.
Не паможа рамонт
Хаце, злітай крывёю.

Нам бы з долу пачаць —
Зубы сціснуць — будоўлю.
Просіць слёзна на чай
У каго наша доля!

Мне балюча, павер,
Слухаць пошапты «рацый»,
Нам вось толькі цяпер
Ды на іх азірацца!

А тым часам на ўздым
Зло рыхтуе петарды.
Вухне гэтакі дым,
Што агню не даць рады.

Місу, бач, апрастаў,
(Спробы марныя нашча)
Лезе глум напрасцяк:
Ведай нашых!

## Натура

Шлях ідзе напрасцяк,
Як бульдозер.
Па касцях у трысця
Без адозвы.

Усплываюць з балот
Бляшкі раскі.
Тут расліне было
Жыць па-райску.

На кароткай назе
З жураўлямі.
Не відно іх нідзе...
Жыравалі..

Тут бы кінуцца ніц,
Як паломнік.
Не з адных бліскавіц
Вочы ломіць.

Ды чаго ўжо цяпер!
Годзе енчыць.
Я даўно, бытта звер,
Душу змэнчыў.

## Трыялет агню

Агню патаемныя знакі
Вечар вятрам падаваў.
Яны вылятали па два,
Агню патаемныя знакі.
Травы бескалёрны дыван
Стаўся барвовым няўзнакі.
Агню патаемныя знакі
Вечар вятрам падаваў.

## Трыялет пакаяння

Сабе даравать не магу:
Поўныя вочы адчаю
Нема тады закрычалі...
Сабе даравать не магу.
Зоры пагаслі карчамі,
Дні патанулі ў смугу.
Сабе даравать не магу
Поўныя вочы адчаю.

---

мужчын, і занялі іх месцы эмансіпіраваныя жанчыны. Сама я адпрацавала там два гады, больш не вытрымала. Дэмагагічная балбатня пра ўсеагульную роўнасць бокам выходзіць. Узяць хаця б узрост. Якая можа быць роўнасць паміж учарашняй студэнткай і настаўніцай-пенсіянеркай, паміж шасці- і васьмікласнікам? Між імі бездань. Але пра гэта не гавораць ні ў настаўніцкай, ні на бацькоўскіх сходах — толькі пра тое, што і паверхні. Вось і сёння англічанка, што за класную ў маёй Сабіны, кажа: «Ваша дачка заявіла на ўроку, што можа гаварыць, акрамя як па-нямецку і па-французску, яшчэ і на дацкай, і на польскай мовах!» Ну, добра,думаю: у адной школе вучыла нямецкую, перайшла ў другую — сталі вучыць англійскай, дома навалам польскіх газет і часопісаў, але адкуль жа астатнія?

Аказваецца, панахапалася летам выразаў накшталт «Банжур!» ды «Дзенькую!» — была на Мінскім моры ў міжнародным лагеры працы і адпачынку. Лепей бы яе туды не адпраўляла! Сораму нацярпелася — і не пераказаць табе. Праўда, цяпер, як успамінаю, адно толькі смяюся.

Ну, дзеткі там падабраліся, можаш сабе ўявіць — і з Галандыі, і з Канады, і з Германіі. Шмоткі, красовачкі, біжутэрыя, электронныя забаўкі — усё «па фірме». Сабіна спачатку разгубілася была, але потым сваё навярстала — звыклася быць за лідэра і ў школе, і ў двары.

Полькі там былі, ну дык і распачалі яны гандаль рознымі брошкамі ды заколкамі: «Тшы рублі, пенць...» А ў маёй, так сказаць, абвостранае пачуццё сацыяльнай справядлівасці. Вось яе і панесла: «Спекулянткі чортавы! Вы каго, сваіх абдзіраеце?!» Тыя паспрабавалі былі бараніць прадпрымальніцкую ініцыятыву, але іх не падтрымалі. Тады мая анархістка наладзіла экспрапрыяцыю тавару, а потым падзяліла яго паміж усімі. Ёй смешачкі, гульня ў рэвалюцыю, а мне ледзь не міжнародны скандал. Але гэта яшчэ нічога, і мудрэй было!

Усе ведаюць, як у нас у лагерах кормяць. А іншаземцы ж нязвыклыя да нашай «далікатнай» ежы. Ну, дык першыя дні з гаршкоў не злазілі. А тады што прыдумалі — скінуцца рублі па тры, пойдуць на станцыю ці на пляж ды панакупляюць у кіёсках пячэння з пепсі-колаю. Але печывам, вядома ж, не пад'ясі. Тады яны — на дачы, і Сабіна мая паперадзе, з торбаю: «Не дайце памерці з голаду замежным грамадзянам — дзецям беларускіх эмігрантаў! Дапамажыце, хто чым можа!..» Ты не падумай, яны не жабравалі: і гуркі, і памідоры, і ягады — усё куплялі па базарных цэнах. Пасля трэба было на хлеб разжыцца, дык Сабіна і тут першая. Падвучыла сяброў, як жалезным прэнтам сарваць замок з дзвярэй у хлебарэзцы. Я, маўляў, пакажу, а вы зрабіце, бо мне могуць упячы, а вам, іншаземцам, за гэта нічога не будзе.

А мне як было! І за хлебарэзку, і за тое, што на Купалле яна зводзіла сяброўак ноччу купацца на кар'еры ды паліць вогнішча. Гэта асабліва спадабалася «капіталісткам»: у іх жа ў лес проста так не ступіш — амаль паўсюдна прыватная ўласнасць. Божа, якімі вачыма глядзеў на мяне начальнік лагера! Як успомню — колікі ўсярэдзіне ад смеху.

Заявілася я туды ў будні дзень, бо выхадныя пасядзела над матэрыялам, што тэрмінова мусіла здаць у нумар — шэф ціснуў. «Напішы,— кажа,— некалькі старонак пра маладзёжны тэатр, здымкі дай». Ну я і напісала — як прачытаюць, дык заенчаць і галоўны рэжысёр, і ўся трупа!..

Чакай, Рэнечка, пра што гэта я казала? Ага, успомніла. Заявілася я ў лагер, ды яшчэ як! У шорціках, у маечцы, пад панамаю ды з «Канонам»! Начлагa крычыць: «Чаму староннія на тэрыторыі?! Ты хто такая?» — «Я,— кажу,— маці».— «Як маці, чыя маці?» — «Маці Сабіны Сапегі, журналістка. Прыехала зрабіць фотарэпартаж пра міжнародную змену. Вось маё рэдакцыйнае пасведчанне...» Дык ён там ледзьве не грымнуўся з ганка. А пасля чуць угаварыла яго пакінуць дачку да канца змены. Праўда, потым і сама шкадавала.

Прывезлі неяк дзяцей на канцэрт у Палац культуры чыгуначнікаў імя Ільіча. Знаёмыя ў мяне дагэтуль пытаюцца: «Дык у гонар якога Ільіча названы гэты Палац?» Добра, што стаіць ён поруч з нашым домам, дык я і падбегла да аўтобуса. Падбегла і жахнулася: беленькія басаножкі надзела мая на такія брудныя ногі, што і сказаць няможна. Важатая дзівілася з мяне, як з брантазаўра, а пасля расказала, што Сабіна распрацавала ў лагеры цэлую тэорыю. Ленавалася, а таму заявіла ў атрадзе, што, маўляў, ад тутэйшай вады, калі мыць ногі штодня, яны могуць патрэскацца, а тады і да СПІДу недалёка. А яшчэ яна неяк увечары ад няма чаго рабіць — сяброўкі ляжаць на ложках, начапіўшы на вушы слухаўкі плэераў — наладзіла хэпенінг. Запаліла святло ды давай чухацца: «Нешта ў мяне ўсё цела свярбіць — не завашывець бы тут з вамі!» Уяўляю сабе карціну: заходзіць важатая, а ў дзявочай палаце сядзяць, адна ў адной у валасах шукаюць, дый самі не ведаюць што. Пярэпалах падняўся страшэнны. Прыбеглі доктар, медсястра, начальнік лагера — усіх дзяўчатак у медпункт дый зачынілі ў ізалятары. Правяраюць старанна ды выпускаюць па адной. А зачыненыя шалеюць, ляментуюць, што позняцца на дыскатэку. Скокі ім у галаве!

Сабіна вунь мой рэдакцыйны дыктафон, мабыць, пад плэер прыстасоўвала дый сапсавала — зусім кепска перамотвае стужку. А што слухае, што глядзіць у сяброўак па «відэку»,— я і назваў некаторых гуртоў ды фільмаў не чула! Заказаў на касеты панадае процьму, калі еду за мяжу. Але адно мяне радуе — перад сяброўкамі перастала выхваляцца. Пачула была нядаўна, як Ала пытаецца ў яе, куды я збіраюся ехаць. «У камандзіроўку,— адказвае. — «А не ў замежную часам?» — «Ды не, у Талін,— кажа,— але тамтэйшыя жавальныя гумкі выглядаюць зусім як імпартныя».

А можа, ты з'ела б чаго, Рэгіначка? Можа, кавалачак піражнага? Пясочнае... Не хочаш? Ну, глядзі!..

Ці многа я за мяжою бывала? Была, і няраз. Летась у Беласток, на фестываль беларускай культуры ездзіла. Гутарыла там з нашымі эмігрантамі, што атайбаваліся ў Нью-Йорку, Кліўлендзе, Нью-Джэрсі... Казалі, што ў большасці сваёй заможна жывуць амерыканскія беларусы. Бачыш, вось гэты тоненькі, модны цяпер бранзалецік падаравалі мне як памятку. Запрашалі да сябе ў госці, абяцалі карміць, вазіць паўсюдна, усё паказваць. Аднаго толькі не маглі зразумець: як гэта ў журналісткі з прэстыжнага часопіса няма трох тысяч на дарогу праз акіян?

Ну, няма ў мяне цяпер гэткіх грошай! Сабіне ўжо тыдзень не магу даць на падпіску ў школе. Чакаю — днямі павінны прыйсці два ганарары. На ганарары і жывём, бо зарплата. можна сказаць, касметычная, толькі для блізіру. А трэба ж нам з Сабінаю і паесці, і апрануцца, і кватэру абставіць. Але нічога, скора пабагацеем — атрымала я вестку пра спадчыну ад заакіянскага сваяка. Надумала покуль што пакінуць большую частку ў тамтэйшым банку — так, на ўсялякі выпадак, а рэшту перавесці сюды.

Што, не верыш? Канешне, дзе там дасі веры, калі кухонны стол замяняе мне пісьмовы. Так, і сплю я покуль што на раскладанцы. Затое дакляравалі да канца года тэлефон паставіць...

Што? Вадзічкі халодненькай хочаш? Зараз налью... Шкада толькі, што кавы табе нельга...

Сантэхнік абсталяванне, як бачыш, змяніў, дамаўлялася, зноў жа па знаёмстве. А так усё самой рабіць давялося — і падлогу чысціць, і шпалеры клеіць, і вокны фарбаваць.

А на каго спадзявацца, калі мужчыны ў доме няма? Неразведзеная, гэта праўда. Але яму сюды ходу няма. Зноў у Мінск заявіўся, швэндаецца каля рэдакцыі. Хіба прыемна мне чуць ад знаёмай, што тры месяцы таму пазычыў у яе сто рублёў, а цяпер унікае сустрэчы, як толькі можа?! Не, хай едзе зноў у азіяцкую сталіцу. Там жа яго прыгрэлі, аблашчылі. Уяўляеш, звязаўся з нейкаю актрыскаю не першае маладосці, а яна, удзячная, і ад суда абараніць паабяцала, і заплаціць за ягоныя гулі. Звоніць ён мне ўчора, плачацца, што шантажыруюць яго, пагражаюць забіць, як не верне картачны доўг, просіць, каб я ў бацькоў грошай пазычыла. Хай у сваіх возьме, а мне дачку гадаваць трэба! Не, аліментаў ягоных не хачу, абы толькі адчапіўся ад нас! Чым з такім татачкам, хай лепш Сабіна расце безбацькаўшчынаю. А мне што, пражыву...

Вунь Хрысціна, крытыкеса са штотыднёвіка, неяк прызналася мне, што нарадзіла на злосць усёй бабскай кодле, дый гадуе адна. І дагэтуль упэўнена, што два творцы пад адным дахам — гэта замнога і што нічога людскага з таго інтэрнацыянальнага замужжа не выйшла б. А цяпер завяла сабе каханка і цалкам задаволеная жыццём. «Прыходзіць,— кажа,— кожнага разу з кветкамі і з шампанскім. Я сябе жанчынаю адчуваю. А выйдзі за яго, дык займецьмеш яшчэ адно, дарослае дзіця, дый з кухні не выберашся». Быў у яе і жаніх з-за мяжы, клікаў з сабою, ды яна адмовілася. А можа, і дарма, як ты думаеш? Ну, чаго маўчыш?

Мне самой вось падумаецца часам — а ці не кінуць тут усё наогул? Можа, лацвей ды працей з'ехаць у якую Аўстралію з усяе нашае чарнабыльнае беспрасветнасці? Не прапала б і там... Хаця куды я з'еду! Маё месца тут, на гэтай зямлі. Бо тут жа застануцца мае бацькі, ды як там пачувацьмецца Сабіна?

Цішэй, ці не прачнулася яна?.. Не, мабыць, падалося... Надта мне падабаецца ў ёй цяпер, што кінула ўрэшце звычку падслухоўваць размовы дарослых, займаецца сваімі справамі. А раней жа было — ледзь толькі хто парог пераступіць, хай сабе нават суседка — адразу вушы навострыць і да мяне, быццам бы мае якую патрэбу.

Ды ты не думай, што яна ў мяне кепская ці непаслухмяная. Сабіна добрая, падтрымлівае мяне, у хатніх справах дапамагае, вучыцца стараецца. Я не скарджуся і не наракаю. Люблю яе, але ж і цяжка бывае спраўляцца. Часам даводзіцца маме падкідаць, асабліва калі камандзіроўка ці паездка якая. Дома ж не пакінеш адну. Я наогул забараняю ёй адчыняць дзверы незнаёмым, асабліва калі мяне дома няма. Раён у нас бандыцкі, раней яго Шалманам называлі. Дый Грушаўка знакамітая побач. Хадзіць тут увечары небяспечна. Я, калі гасцей выпраўляю позна, дык толькі ад самага пад'езда, на таксі, якое выклікаю па тэлефоне ад суседзяў...

Але што табе да ўсяго гэтага?! І чаго ты так умольна на мяне пазіраеш? Не ясі, не п'еш... Ну ды ладна, спадзяюся, Сабіна зразумее нас і не стане крыўдаваць.

Хадзі сюды, не бойся! Вось так, адчынім дзверы клеткі, а фортачка ў нас заўсёды нарасхрыст...

Ляці, Рэгіначка, на волю, ляці!

# ЗАГАДКА ДЛЯ НЕПАЛЬСКАГА АСТРОЛАГА

## Чацвёртая сустрэча з Полацкам

### 1.

...Альбо: «Чаго я зноў паехала ў Полацк», — можа і такі падзагаловак быць. Але што ж тут загадкавага? Калі чытачу траплялі на вочы публікацыі пра мае ранейшыя вандроўкі туды—тры гады запар, у адзін і той жа час,— ён ужо здагадаўся. Прычына камандзіроўкі ўсё тая ж: Усесаюзны фестываль старадаўняй і сучаснай камернай музыкі. А ўражанні, вядома, абнавіліся.

З трывогай пакідала Мінск, які нагадваў мужнага добрага асілка, чыё высакародна-стрыманае аблічча сказіла злавесная мітынгова-забастовачная сутарга. Не хацелася сутыкнуцца з нечым падобным і ў Полацку. Прагнозы «-олагаў» ды «-істаў» ужо даканалі: то панурыя, то істэрычныя, то квазіфіласофскія... Але насуперак ім жыццё імправізавала на свой лад, падаючы, паміж сігналамі трывогі, знакі стабільнасці і надзеі.

Дарога да Полацка. Спакойныя вясновыя малюнкі за акном, зычлівыя людзі ў аўтобусе, няспешная лагодная іх гамонка. І вось шафёрскі транзістар быццам знарок выдае такую інфармацыю: сёлета не адбудзецца традыцыйны музычны фестываль «Кіеўская вясна» з прычыны адсутнасці грошай. Жорсткі факт. Асабліва на фоне нашых падзей: «Амадэус» («Мінская вясна-91»), Усесаюзны фестываль у Полацку...

Дарога да Полацка доўгая. За Бягомлем прыпыніліся — галасаваў чысценькі старасвецкі дзядок. Не меў ён ні торбы, ні пакункаў, а толькі кранальна сціскаў у руцэ маленькі букецік пралесак. На прамежкавых аўтастанцыях пасажыры шукалі сабе занятку. Назіралі, як душацца кінутым хлебам ненасытныя сварлівыя галубы і як пагардліва касавурацца на іх амаль свойскія лепельскія чайкі. Стварылі чародку ля харчовай палаткі, дзе гандлявалі свежымі булачкамі, гарчыцай у слоіках ды пачкамі рысавых палачак. А вясковыя (мо мястэчковыя) кабеты гаманілі пра жыццё. На лёс не скардзіліся, новыя цэны не абмяркоўвалі. Адна хвалілася, што ў іх цяпер і з булкамі добра стала, бо менш купляюць, нават магазіншчыца злуецца, што хлеб не разыходзіцца. Другая заўважала, што можна яйкі амаль заўсёды ўзяць, а то і на каўбасы шанцуе. Тады першая казала, як нядаўна ўзяла «аж дзве кілі «Грыльяжу».

З міжволі пачутай размовы высноўвалася ў мяне няхітрая думка: мусіць, і не надта соладка жывецца гэтым усмешлівым жанкам, але ж якія яны шчаслівыя! Не ўсім дае Бог уменне радавацца жыццю, звяртаць і сваю, і суседаву ўвагу на лепшае, не выстаўляць напаказ ды прылюдна не клясці свае нягоды, бо маўкліваму суседу, можа быць, і яшчэ горш...

Праз нейкі час мне давялося самой паразмаўляць з такім шчаслівым чалавекам — Валяй, работніцай аднаго з наваполацкіх прадпрыемстваў. Убачыла я старую абвестку пра мітынг у падтрымку мінскай стачкі і пацікавілася вынікамі той сходкі. Аказалася, Валя там і не была. Стамілася на працы, ды і хатнія, сямейныя справы не кінеш, а наперадзе два выхадныя — трэба збірацца ў вёску да бацькоў: там гаспадарка ладная, трэба даглядаць, і сяўба пачынаецца — а яны ўжо старэнькія... Наконт павышэння цэн казала так. У Наваполацку прадпрыемствы ў асноўным прыбытковыя. Вось і ў іх на заводзе за кошт прыбытку кампенсацыю далі па 140, а не па 60 рублёў, абяцалі праз 2 месяцы падвоіць зарплату, 500 рублёў на год выдаткуюць кожнаму работніку для пакрыцця транспартных затрат і на харчаванне.

Тое, што Полацк з Наваполацкам непадатлівыя пакуль на забастоўкі, пацвердзіў і мой тамтэйшы калега, з якім пабачыліся на фестывалі. Кіўнуўшы на «Шкоду» ля Сафійскага сабора, атрыбут працы музрэдакцыі рэспубліканскага радыё, калега парадаваўся: «Малайцы, што прыехалі. І наша абласное тэлебачанне тут, таксама будзе канцэрты запісваць. А вось я са сваімі мінскімі калегамі не паразумеўся: увесь час просяць-чакаюць паведамленняў пра забастоўкі, мітынгі. У нас, кажу, спакойна. Прапаную інфармацыю пра фестываль. Хто б іншы парадаваўся, сам прыехаў бы з Мінска паслухаць, а тут: «Ну што гэта за падзея? Каб ты нам паведаміў, што адна кабета адразу пяцёра дзяцей нарадзіла,—гэта цікава...» Дарэчы, пра дзяцей: вунь, прывёў на канцэрт сваіх...»

### 2.

**Дазволю сабе экскурс у гістарычны дзень «шокавай тэрапіі» — 2 красавіка. Насуперак самым змрочным прароцтвам, ён завяршыўся ў Мінску вечарам невытлумачальнага, на першы погляд, яднання вакол Моцарта. Прагнозы на правал адкрыцця фестывалю «Амадэус» (як і ўсяго фестывалю, наладжанага ў год памяці кампазітара) не спраўдзіліся. Можна перайначыць вядомае выслоўе і сказаць, што чалавецтва не загіне, пакуль сярод нас ёсць людзі «з Моцартам у сэрцы». Людзей, што хацелі паслухаць «Рэквіем», аказалася куды больш, чым «лішніх» білетаў. Многіх выручыла ў той вечар ТБ, зрабіўшы трансляцыю канцэрта — аднаго з самых кароткіх і самых ёмістых.**

**Прастору перапоўненай залы (слухалі нават стоячы), здавалася, рассунула, разамкнула, злучыўшы з Космасам, жывая «паралельная рэальнасць»: неўміручы Моцарт. «Рэквіем», гэта вялікае ўвасабленне хрысціянскай ідэі, увабраў у сябе і груз гісторыі з яе нескончонымі драмамі, тысячагадовыя пакуты чалавека і чалавецтва, загадку абнаўлення мудрай прыроды, у якой ноч змяняецца хай хмарным, але ранкам, і за самай чорнай смугою заўсёды застаецца сонца.**

**«Гэта — пра сёння і пра нас»,— быццам даводзіў сваёй трактоўкай дырыжор Я. Колабаў. Слухачы, згушчаючы ўвагу на трагічна-непазбежным, пагружаліся ў стан жалобы. У такім стане вельмі цяжка стрымліваць слёзы...**

**Праз 10 дзён «Рэквіем» Моцарта адкрываў і полацкі фестываль. Але гэта быў ужо зусім іншы твор. Згусткі безнадзейна-змрочнага быццам раствараліся ў суровай плыні адвечных усялюдскіх праблем, канфліктаў, радасцяў. Энергія маналітнага сімфанічна-харавога гучання мкнула пад купалы храма, лёгка струменілася па белых, амаль праменістых ад яркага дзённага святла, сценах, замірала ў трапятніх акордах рэха, вярталася аднекуль з вышыні нябесным казаннем аргана, пранікала ў душу. Гэта не было «выкананне». Гэта нават нельга назваць майстэрствам. Гэта — сама Музыка...**

**Дырыжыраваў «Рэквіемам» заўсёдны ўдзельнік фестываляў у Полацку В. Палянскі. На сцэне быў яго дзівосны Камерны хор, салісты В. Фёдарава, Л. Кузняцова, А. -С. Мукманаў, Ю. Вішнякоў, Сімфанічны аркестр Міністэрства культуры СССР (мастацкі кіраўнік Г. Раждзественскі), за арганам — Л. Голуб.**

**Дарэчы, Генадзь Раждзественскі меўся дырыжыраваць і сам: ягонае імя значылася ў інфармацыі пра наступны канцэрт. Славуты маэстра, які двойчы з трыумфам і задавальненнем выступаў у Полацку,— не прыехаў, на жаль. Тэрмінова выклікалі ў Англію для запісу оперы «Барыс Гадуноў». За пульт зноў стаў ягоны вучань Валерый Палянскі.**

**Канцэрт для фагота з аркестрам Сі-бемоль мажор І. -К. Баха, малодшага з сыноў славутага кампазітара, можна было б параўнаць з дыхтоўнай, багатай музейнай рэччу, каб не выдатны саліст В. Папоў: ён ператварыў «экспанат» у жывую музыку! Варта было паслухаць абаяльны тэмбр ягонага фагота, мяккія ды праніклівыя, нібы далікатная чалавечая гаворка, маналогі-кадэнцыі. Які гэта цуд — сагрэтае дыханнем «дрэва»!**

**Варта было паслухаць і найпапулярнейшую 40-ю сімфонію Моцарта: з дзяцінства знаёмыя тэмы напоўніліся ў гэтых сценах свежымі абертонамі, нават ужо данучлівае «мі рэ-рэ, мі рэ-рэ, мі рэ-рэ...» зрабілася па-новаму прывабнай музычнай фразай.**

**Зала гула ад воплескаў. Музыканты, дырыжор без антракту сыгралі два буйныя творы, сыгралі з вялікай аддачай. (У канцэртмайстра аркестра А. Шаніна, між іншым, ураджэнца Мінска, нават волас на смычку парваўся!). Стомленыя, узмакрэлыя, яны раптам весела і азартна паўтарылі 3-ю частку сімфоніі, і рэха апошняга гуку было падхоплена грымотным «брава!»**

**Выступіў В. Палянскі і ў сваім звыклым амплуа харавога дырыжора, які адкрывае забытыя старонкі музычнай культуры. Дзесяць двуххорных канцэртаў Д. Бартнянскага — сёлетняе адкрыццё.**

**Двума паўкружжамі, па левую ды правую руку дырыжора, стаяў падзелены напалам хор. Характэрнай пластыкай, жэстыкуляцыяй, усёй паставай сваёй Палянскі нагадваў званара за працай. Ён быццам разгойдваў языкі царкоўных бомаў, і яны адказвалі сапраўды незямнымі, эталоннай чысціні галасамі. Храмавая акустыка дадавала непаўторных адценняў асабліва эпізодам поліфанічным. Перазовы двух хораў утваралі своеасаблівы стэрэаэфект. І адчувалася, з якой асалодай Палянскі пагружаецца ў шматфарбны свет свайго «харавога інструмента», здабываючы з яго то празрыстую звонкасць труб, то шчыльнае сімфанічнае tutti, то ўладарныя тэмбры аргана.**

### 3.

Выгнанніца — духоўная музыка — вяртаецца, старонка за старонкай, у нашу культуру. Полацк фестывальны сярод першых прычыніўся да гэтага вяртання. Успомніце: чатыры вясны таму нясмелай першай ластаўкай была тут прэм'ера «Всенощного бдения» С. Рахманінава. Дый самому гораду, старонка за старонкай, вяртаецца яго гісторыя. Асфальт на цэнтральных вуліцах яшчэ захоўвае сляды вялікіх леташніх урачыстасцей — свята Скарыны. І калі маляўнічая разметка тратуараў з часам сатрэцца, дык адбудаваная на беразе Дзвіны камяніца былой брацкай школы застанецца помнікам адраджэнню. Тут цяпер цудоўны музей беларускага кнігадрукавання. Тут у прыгожа, тонка зробленых кнігах, белыя аркушы якіх амаль не пацямнелі ад часу, захоўваецца мудрасць Скарыны.

Адраджаецца і галоўная святыня праваслаўных беларусаў—Спаса-Еўфрасіннеўскі манастыр. І, дзякуй Богу, аціхлі страсці праваслаўных ды каталікаў вакол Сафіі. Не ад хрысціянскай веры — зацятасць у прэтэнзіях на храм, пабудаваны аднымі, узноўлены другімі, разбураны трэцімі і ўрэшце адроджаны, на дзяржаўныя сродкі, чацвёртымі. Не па-хрысціянску гэта — пагарджаць пачуццямі, таксама духоўнымі, многіх людзей, якіх яднае ў Сафійскім храме алтар высокага мастацтва.

А феномен фестывалю, пераконваюся ў гэтым штораз, трымаецца на энтузіязме, дасведчаным і патрабавальным гусце Таццяны Давыдаўны Рудавай, дырэктара Полацкага гісторыка-культурнага запаведніка. «Рудава, канечне, малайчына, такія сілы збірае, але ўпарта не хоча з намі дзяліцца»,— жаліўся нядаўна знаёмы філарманічны работнік. Што ж, мне таксама шкада, калі такія «зоркі», як Раждзественскі, Палянскі, абмінаюць мінскія фестывалі, увогуле наш горад. Але якім чынам павінна Рудава «дзяліцца»? Талент не падзеліш, не пазычыш, а ў яе ж гэта дар — і паклікаць, і сабраць, і абгаварыць ужо наступны прыезд гасцей: дыпламатычна-дружалюбныя зносіны з капрызлівымі творчымі людзьмі — ўга які клопат і якое мастацтва!

Мо таму, «за ненадобнасцю», і знік сёлета з фестывальных афіш радок: «Міністэрства культуры БССР», які спраўна друкаваўся дасюль, хоць ні дапамогі, ні афіцыйнага прадстаўніцтва, ні простай цікавасці з боку Мінкульта чамусьці так і не было. Вялікі арганізацыйны і фінансавы воз цягнуць Полацкі запаведнік, ягоны дырэктар ды аб'яднан «Союзконцерт».

Насуперак эканамічным катаклізмам, песімістычным прагнозам свята ўдалося і ў чацвёрты раз.

Канцэрты былі адметныя, усе прайшлі з аншлагам, парадавалі і публіку, і артыстаў. Арганістка Л. Голуб выступіла ў ансамблі з салістамі аркестра МК СССР, сама вяла і каменціравала праграму, складзеную пераважна з малавядомых твораў Моцарта. Спявачка В. Жураўлёва падарыла палачанам вечар старадаўняга раманса. Хор «Журавінка» 130-й мінскай школы (кіраўнік А. Еўсюкоў), які гастраляваў ужо ў некалькіх еўрапейскіх краінах, у Полацку спяваў упершыню і звярнуў на сябе ўвагу выдатны гучаннем ды разнастайным рэпертуарам: класіка, апрацоўкі беларускага фальклору, песні розных народаў. І ансамбль старадаўняй музыкі «Мадрыгал» (кіраўнік А. Янчанка) падтрымаў высокі ўзровень фестывалю.

А сенсацыяй сталіся два канцэрты музыкантаў з Галандыі, аркестра «Амстэрдамская сімфаньета» пад кіраўніцтвам



«Свае выступаюць...» (Удзельнікі хору «Журавінка»).



Пяе Вера Жураўлёва.



У фестывальных кулуарах. (Другі злева — дырыжор Леў Маркіз).

**У тэатры імя Янкі Купалы ідуць апошнія рэпетыцыі «Бездані». 22 мая купалаўцы мяркуюць паказаць прэм'еру (калі атрымаецца, калі ўсё будзе добра!). Спектакль ставіць В. Мазынскі. У галоўных ролях заняты С. Станюта, М. Яроменка, Т. Аляксеева, Л. Давідовіч, М. Захарэвіч, Ф. Варанецкі.**

**Якое адчуванне ў аўтара напярэдадні такой падзеі! Жу-дас-на-е! Раптам тое, у што ты ўклаў добры кавалак свайго жыцця, зусім НЕ ТОЕ!! І зусім НЕ ТАК!! Жудасна настолькі, што хоць бяжы ты на край света, пакуль пра цябе трохі забудуць. Дальбог, гэта не какецтва.**

**Пра што п'еса! Пра вялікую драму людзей сучаснага пакалення, якое сённяшнімі вачамі глянула на сябе, учарашніх. А бездань — гэта чалавечая душа, у якой стаіўся цэлы свет! Сусвет!... Ці часта мы заглядаем у гэтае сваё бяздонне!...**

АЎТАР.

**Мікола МАТУКОЎСКІ**

# БЕЗДАНЬ

## Драма

**Фінал пятай карціны**

**ТРАЯН — рэдактар рэспубліканскай газеты**

**ЧУМАК — першы сакратар ЦК рэспубліканскай кампартыі**

...Рабочы кабінет Траяна ў рэдакцыі. Траян праводзіць місіс Джэксан і неўзабаве вяртаецца. Падыходзіць да стала і доўга моўчкі глядзіць на вуліцу. Пачуўшы шорах за спіной, Траян павярнуўся да дзвярэй і ўбачыў Чумака.

ЧУМАК (**з усмешкай**). Што, не чакаў?.. Выгляд у цябе такі, нібыта кракадзіла ўбачыў... (**Аглядае кабінет.**) Тэлефоны твае маўчалі. Але мне сказалі, што ты ў рэдакцыі. І вось я тут. Ты здзіўлены?

ТРАЯН. Не...

ЧУМАК. Не бачу, каб ты ўзрадаваўся майму візіту... Я сапраўды ўпершыню ў тваім кабінеце. Сесці дазволіш? Ці стаяць у парозе?

ТРАЯН. Сядай...

Паўза.

ЧУМАК. Прабачэння прасіць прыйшоў... Верыш, з таго дня, як мы пасварыліся, месца сабе не знаходжу. Усё з рук валіцца... Праўда, ты першы на сцяну палез. А я не стрымаўся. Але ўсё адно, прабач. Не той час, каб тузгаць адзін аднаго. Прабач...

ТРАЯН. Няма за што. Ты сказаў, што думаў. Я таксама. Квіты...

Паўза.

ЧУМАК. Я сэрца сваё на далонь перад табой паклаў. А ты, бачу, гатоў у лыжцы мяне ўтапіць.

ТРАЯН. Памыляешся, Антон Пятровіч. Я ўдзячны табе...

ЧУМАК. Нават так? За што?

ТРАЯН. Паказаў мне, якое я дзярмо. Калі пра гэта толькі сам здагадваешся — не той эфект. А вось калі пра гэта табе скажуць твае былыя сябры...

ЧУМАК. Зноў ты за сваё!

ТРАЯН. Помню твае словы: «У першага сакратара ЦК не можа быць сяброў. У яго толькі таварышы па партыі!»

ЧУМАК. Злапамятны ты, Аляксей... Колькі гадоў прайшло з таго, як я гэтае глупства сказаў?.. Ніяк не можаш дараваць, што не адпусціў цябе ў літаратурны інстытут? Дык гэта ж зноў, калі было! Ты і без інстытута стаў пісьменнікам. Цябе друкуюць, пра цябе добра пішуць. Колькі ж ты мяне яшчэ будзеш караць?

Паўза.

ТРАЯН. Я не цябе караю. Сябе... За тое, што быў такім ідыётам і верыў, што ты — гэта і ёсць партыя. Увасабленне! «Ум, честь и совесть!» Спачатку Сталін, затым Хрушчоў, потым Брэжнеў...

ЧУМАК. А цяпер я?.. Занадта многа гонару... Чаму ты мяне не разумееш? Не хацеў я губляць добрага рэдактара. Таму і не адпусціў. Гэта нашага брата лёгка замяніць. Ледзь што—даў яму выспятка і будзь здароў! А творчы чалавек з вострым пяром — рэдкасць.

ТРАЯН. Не крыві ты душой хоць зараз! Халуя ты не хацеў губляць! Які пісаў за цябе прамовы, даклады, артыкулы для газет! Мне зараз моташна, што столькі гадоў вёз цябе на сваім гарбу! Што столькі гадоў быў разумным яўрэем у рускага губернатара!

ЧУМАК. Кінь ты, Лёшка! Усе **так** робяць. Вунь Брэжневу цэлую трылогію напісалі і нават ленінскім лаўрэатам зрабілі! А вякаць пра гэта толькі цяпер пачалі! Мы дужа смелыя сталі —нябожчыкаў не баімся... Думаеш, Гарбачоў сам сабе даклады піша? Ха! І не таму, што ў яго свой кацялок не варыць. А таму, што сам ён у гэты час робіць тое, чаго іншыя за яго зрабіць не могуць. А потым... Давай, браце, як на споведзі, калі ў нас пайшла такая гаворка... Я ж цябе не прымушаў. Ніколі! Прасіў... Чаму ж ты не адмаўляўся? Чаму ты ніколі не запярэчыў? Ну, хоць бы раз!

Паўза.

ТРАЯН. Таму што прастытутка. Яна цела прадае. А я прадаваў табе мазгі.

ЧУМАК. Ну, прастытутка — гэта ўжо занадта. А навошта ты ўсё гэта рабіў?

ТРАЯН. Авёс у цябе добры быў...

ЧУМАК. Паслухай, Аляксей... Я цябе добра разумею. Ты зараз гатоў увесь свет узарваць. Але ж свет не вінаваты ў тым, што адбылося. Дзіва, што яна яшчэ столькі жыла...

ТРАЯН (**гнеўна**). Гэта не кранай!

ЧУМАК. А ты не будзь такім самаедам! Каму карысць з таго, што ты грызеш сябе? Каму ад гэтага лягчэй?

ТРАЯН. Ты чаго прыйшоў сюды?

ЧУМАК. Я ж сказаў... Прасіць у цябе прабачэння.

ТРАЯН. Антон Пятровіч... Тут не тэатр. Я цябе ўсё жыццё ведаю. Штосьці раней ты сюды не заглядаў!

ЧУМАК. Ёсць у мяне і справа да цябе. Але не яна галоўнае. Галоўнае тое, што я табе сказаў.

ТРАЯН. Вось справу і кажы... Ды не пакутуй ты так! Калі хочаш, я сам табе скажу, чаго ты сюды прыйшоў?

*Чумак збянтэжыўся, што Траян так хутка распазнаў яго «шахматны ход». Каб не паказаць сваю збянтэжанасць, усё павярнуў на жарт.*

ЧУМАК. Ну-ну! Не ведаў, што ты яшчэ і празорца. Бабка Ванга па сумяшчальнасці!

ТРАЯН (**жорстка**). Ты даведаўся, што мы друкуем пісьмо міністра аховы здароўя. І зразумеў, чым гэта можа для цябе скончыцца. Вось таму і завітаў на агеньчык!

ЧУМАК. Якое пісьмо?

ТРАЯН. Якое ён напісаў табе тры гады назад. Пра мутантаў. І якое ты нават не прачытаў. Па тваёй віне мы страцілі тры гады!.. Я нават ведаю, хто табе пазваніў і сказаў, што пісьмо пастаўлена ў нумар. Мой намеснік, Падабед... Так што, Антон Пятровіч, абыдземся без тэатра.

**Паўза. Чумак ліхаманкава шукае новую лінію паводзін. Але на твары яго не ўздрыгнуў ніводзін мускул.**

ЧУМАК. Між іншым, не забывай, што пісьмо тое — «для службовага карыстання»!

ТРАЯН. Такога грыфа на ім няма.

ЧУМАК. Памыляешся, ёсць такі грыф! Паказаць? Дарэчы, яно ў мяне з сабой...

ТРАЯН. Пакажы! Калі яно так «дарэчы» аказалася ў тваёй кішэні!

ЧУМАК. Добра смяецца той, хто смяецца апошнім! (**Дастае з кішэні пісьмо і паказвае яго Траяну.**)

ТРАЯН (**зірнуўшы на пісьмо**). Дрэнь жа твае справы, Антон Пятровіч, калі ты на такое адважыўся. Не твой гэта маштаб. Разумееш? Ты ж як-ніяк член Палітбюро. Наваспечаны!

ЧУМАК. Ты пра што гэта? Нешта я цябе не разумею...

**Траян моўчкі ідзе да свайго рабочага стала, дастае паперу і паказвае яе Чумаку.**

ТРАЯН. Бачыш? Міністэрская копія пісьма. Я асабіста ўзяў яе ў міністра. Ніякага грыфа на ёй няма!

ЧУМАК. Значыцца, ён з'явіўся пазней!

ТРАЯН. Паслухай, Антон Пятровіч... Не табе за такую саломінку хапацца. Не толькі сябе — увесь свой ранг ганьбіш. Такога яны табе, ніколі не даруюць...

Паўза.

ЧУМАК. Гэта ўжо падобна на шантаж. Чаго ты хочаш? Адпомсціць? Абняславіць?.. Цяпер гэта модна! Цяпер на партыю ўсіх сабак вешаюць! І ты захацеў быць у гэтай кампаніі?

ТРАЯН. Зноў ты блытаеш сябе і партыю... Так ты нічога і не зразумеў. Ці не хочаш зразумець?.. Зараз вунь якія дакументы друкуюць — Молатаў у абдымках Рыбентропа! А ты: «Ёсць грыф! Няма грыфа!» Ды якая розніца ў рэшце рэшт — ёсць там гэты грыф ці няма?.. Я думаў, ты разумнейшы. І тут я памыліўся... Ты сказаў, што я ўвесь свет гатоў узарваць... Па сабе мяркуеш... Гэта свет павінен мяне ўзарваць... Бо не ён перада мной, а я перад ім вінаваты...

ЧУМАК (**зусім забыўшыся, што трэба іграць ролю**). Тады растлумач, чаму ты хочаш надрукаваць гэтае праклятае пісьмо? Менавіта зараз! Калі ў нас знаходзяцца замежныя эксперты! Проста так? Без усякай задумы?

ТРАЯН. Не, чаму ж? Задума ёсць... Каб паказаць людзям, якую нікчэмнасць яны столькі гадоў маліліся... Якую трагічную памылку яны зрабілі і якую страшную цану за яе плацяць... З экспертамі табе сапраўды не пашанцавала. Не ў час прыехалі. Без іх ты б, відаць, выкруціўся... Ты сваю базарную цану ведаеш...

**Вялікая паўза. Чумак доўга, з нянавісцю глядзіць на Траяна.**

ЧУМАК. Ну, і скаціна ж ты, Аляксей Сцяпанавіч!

ТРАЯН (**не адразу, горка**). Тваё выхаванне, Антон Пятровіч...

**З а с л о н а.**

**ВЯРТАЮЧЫСЯ ДА НАДРУКАВАНАГА**

# ДАВЯРАЙ ДЫ ПРАВЯРАЙ!

Рэдакцыя «ЛіМа» атрымала адказ на адкрыты ліст групы пісьменнікаў, адрасаваны старшыні Дзяржтэлерадыё БССР А. Р. Сталярову (гл. нумар за 22.02. г. г.). Два месяцы спатрэбілася дружнаму калектыву літаратурна-драматычнай рэдакцыі радыё, каб «сачыніць» звычайную даведку, якую старшыня ўласнаручна і падпісаў. Даведка - справаздача ахоплівае няпэўны тэрмін (пяць? дзесяць гадоў?) і разлічана, па ўсёй бачнасці, на людзей наіўных. На пяці старонках столькі паўтораў, пераскокаў і лагічных нестыковак, што друкаваць адказ цалкам не выпадае. Аднак і спісаць яго ў архіў, пакінуўшы без каментарыя гэты ўзор фармальнай адпіскі, таксама нельга.

Даведка густа стракаціць імёнамі пісьменнікаў, творы якіх «за апошні час» прагучалі на радыё. Называюцца ўсе пастановачныя перадачы мінулага года, хаця пра іх гаворкі якраз не было. Падкрэсліваецца, што рэдакцыя прапагандуе творы нашай літаратуры, што нямала перадач прысвечана юбілейным датам, зноў і зноў пералічваюцца тэмы, накірункі, рубрыкі...

Асаблівы націск робіцца на тое, што ў эфір выходзілі творы **аўтараў** крытычнага ліста — апавяданне Б. Сачанкі «У навальніцу», радыёпастаноўка «Дарога ў Хатынь», старонкі рамана «Вялікі лес», ішла размова пра кнігі «Стырно» С. Панізніка і «Паветраны замак на дваіх» Т. Бондар, расказвалася пра жыццё і творчасць Н. Пашкевіча, Д. Бугаёва, гучалі творы А. Пісьмянкова, нататкі У. Дамашэвіча, Я. Лецкі... Вось, маўляў, які няўдзячны народ гэтыя пісьменнікі! Зусім не цэняць ласкі. Ну падумайце: хіба можа быць благой перадача, у якой гучыць тваё імя або твой твор?!

Прыведзены пералік, заўважым, — доказ таго, што зусім не асабістая крыўда рухала крытыкамі, паэтамі, празаікамі, якія публічна выказалі свой непакой станам літаратурнага вяшчання на Беларускім радыё.

Нам паведамляецца, што рэдакцыя не збіраецца «зводзіць рахункі з-за асобных аўтарскіх няўдач»: «**нават** (падкрэслена рэд.) апавяданне Х. Лялько «Лёгкі хлеб», як і планавалася, пайшло ў эфір 1 сакавіка 1991 г., хаця подпіс яе таксама стаяў пад «Адкрытым лістом». Сапраўды, з боку літаратурна - драматычнай рэдакцыі і радыё высакародства неверагоднае!..

Адзін з пасажаў, апроч усяго іншага, здзівіў нашу супрацоўніцу Галіну Каржанеўскую, якая таксама падпісала ліст да старшыні камітэта. Яна даведалася з афіцыйнага адказу, што ёй вернуты рукапіс п'есы. У сапраўднасці ні самога рукапісу, ні адказу, станоўчага або адмоўнага, ад загадчыка пастановачнай часткі У. Дзюбы яна не атрымлівала.

Ну, гэта ўсё прыватныя моманты, скажа чытач. Што ж напісаў А. Сталяроў адносна крытычных заўваг, якія тычыліся ў асноўным **якасці** і **ўзроўню** літаратурных перадач, іх формы і адпаведнасці сучасным патрабаванням? Ці быў абмеркаваны ліст на калегіі? Якія з прэтэнзій прызнаны справядлівымі? На гэтыя пытанні адказу мы не атрымалі. Паважаны старшыня зрабіў выгляд, што не зразумеў сутнасці крытыкі. Падвяло і пачуццё гумару. Нам на поўным сур'ёзе даводзяць, што не Мікола Базарэвіч адкрыў радыёкампазіцыі, што гэты жанр «працуе на слухача вось ужо 60 гадоў». Так, кампазіцыі па **розных творах** працуюць мо і на слухача, а па нейкім **адным** ды без усялякага музычнага афармлення — тыя на М. Базарэвіча. Схема простая і адпрацаваная: пераказваюцца вядомыя звесткі з біяграфіі, а ўроссып падаюцца цытаты з кнігі таго ж аўтара, часцей крытыка або літаратуразнаўцы. Такому вынаходніцтву (ганарарнаму) мог бы пазайздросціць сам Астап Бэндэр!

А ўвогуле, ці ўключае паважаны тав. Сталяроў радыё ў 9.15 раніцы? Ці слухае ён перадачы — не толькі літаратурныя, але і іншых рэдакцый — маладзёжнай, дзіцячай, музычнай, чые выхады ў эфір не вымушаюць выключаць прыёмнік? Калі б чуў, то ў яго была б магчымасць параўноўваць, існавалі б такія неабходныя ў яго справе крытэрыі.

У адказе штотыднёвіку пералічваюцца штатныя супрацоўнікі рэдакцыі — члены СП Беларусі — і задаецца рытарычнае пытанне: «Хіба нельга ім давяраць?» Мяркуючы па ўсім, у тым ліку па абы-як напісаным адказе — нельга, і не толькі членам (прыналежнасць да творчага саюза ў дадзеным выпадку ролі не іграе). Бо даверышся — абавязкова трапіш у няёмкае становішча. Што, уласна кажучы, і атрымалася.

**БЕЛАРУСКАЕ ЗАМЕЖЖА**

## «ПОЛАЦАК»: працяг сустрэчы




**Чарговая вестка з далёкага Кліўленда — другі нумар тамашняга часопіса «Полацак». Як бачна, выдаўцы з беларускага замежжа пакуль што не прыйшлі да нейкай пэўнай выявы вокладкі. На гэты раз аўтарам яе з'яўляецца мастак У. Жук. Верхнік, што імчыцца на кані, вядомая «Пагоня»... Малюнак сімвалізуе паяднанасць эпох, паяднанасць помыслаў людзей, якія жылі калісь і якія жывуць сёння, ды аднолькава дбаюць аб свабодзе і незалежнасці Бацькаўшчыны.**

**У рэдакцыю «Полацака» паступілі віншаванні з Беларусі. «У гэты цяжкі для Беларусі час, калі гэтак востра абярнулася праблема культурнага, гістарычнага ды біялагічнага выжывання народа, у такі час важна і дорага кожнае ламкненне на яе карысць», — гаворыць народны пісьменнік Беларусі, прэзідэнт згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына» В. Быкаў. «Калісьці, гаворачы пра Полацак, што ўладарна асеў на Дзвіне, казалі: «Берагі ў Дзвіны срэбраныя, а дно залатое». Няхай рака роднай гісторыі, што пацячэ праз часопіс «Полацак», будзе мець такія ж берагі і такое дно», — жадае намеснік старшыні Сойма БНФ М. Ткачоў. С. Законнікаў і Р. Барадулін павіталі землякоў вершамі. У часопісе пададзена факсіміле іх пасланняў. Тут жа велікоднае прывітанне а. М. Страпко і яго сям'і.**

**Але гэта, так бы мовіць, святочная частка нумара. Астатнія ж матэрыялы — зноў скажам у тым жа тоне — «рабочыя». Гэта і артыкул А. Белага «Вытокі нацыянальнай свядомасці», і дакументы Рады Беларускай Народнай Рэспублікі (факсіміле), і ўспаміны Я. Станкевіча «Узыходзіла сонца незалежнае Беларусі», перадрукаваныя з газеты «Бацькаўшчына» за 25 сакавіка 1958 года, і развагі Л. Лыча «Беларусізацыя», і публіцыстычная аповесць-хроніка ў дыялогах Э. Ялугіна «Свечкі на Дзяды»...**

**Як бачым, у «Полацаку» суседнічаюць матэрыялы, напісаныя як беларусамі замежжа, так і прадстаўнікамі нашай рэспублікі.**

**Да згаданых дадам яшчэ артыкул М. Булахава «Пра апазіцыю «паганства — хрысціянства» ў «Слове аб палку Ігаравым», ажыццёўлены М. Сяднёвым пераклад «Плача Яраслаўны», роздум І. Кісялёвай «Чарнобыль: спроба аналізу сітуацыі».**

**А. М.**

# СУМЛЕННА СЛУЖЫЎ НАРОДУ

**18—24 красавіка гэтага года ў Акадэміі навук рэспублікі, у Брэсце і Камянецкім раёне прайшлі чытанні, прысвечаныя 110-й гадавіне з дня нараджэння выдатнага грамадска-палітычнага, дзяржаўнага дзеяча, вучонага, гісторыка Беларусі Усевалада Макаравіча Ігнатоўскага. У чытаннях прыняў удзел і У. МІХНЮК, доктар гістарычных навук, прафесар Інстытута паліталогіі і сацыяльнага кіравання Кампартыі Беларусі. Прапануўваем вашай увазе артыкул, у аснову якога пакладзена яго выступленне ў АН БССР.**

Праз 60 гадоў справядлівасць перамагла. Відны беларускі нацыянальны дзеяч, першы прэзідэнт Акадэміі навук Беларусі рэабілітаваны ў партыйным дачыненні. 31 кастрычніка 1990 г. Бюро ЦК КПБ прыняло рашэнне: «Улічваючы, што пастаўленыя супраць Ігнатоўскага У. М. пры выключэнні ў студзені 1931 г. з партыі абвінавачанні ў груповай антыкамуністычнай, контррэвалюцыйнай дзейнасці пры праверцы не пацвердзіліся, аднавіць яго (пасмяротна) членам КПСС з чэрвеня 1920 г.

Сакратар ЦК Кампартыі Беларусі Я. Сакалоў».

У чым жа абвінавачваўся У. Ігнатоўскі ў канцы 20-х гадоў? Каб адказаць на гэтае пытанне, прыгадаем той час.

У першай палове 20-х гадоў у БССР пачала ажыццяўляцца палітыка беларусізацыі. Яна ўяўляла комплекс мер па развіцці нацыянальнай мовы, літаратуры і школы, па навуковым даследаванні гісторыі, эканомікі і культуры Беларусі, пераводзе дзяржаўных і грамадскіх устаноў і арганізацый, часцей Чырвонай Арміі на беларускую мову, а таксама па вылучэнні кадраў у партыйны і савецкі апарат, у тым ліку і кіруючых, з карэннага насельніцтва. Антынацыянальныя, беларусафобскія, як тады казалі «элементы» перашкаджалі ажыццяўленню беларусізацыі. Як адзначалася ў рэзалюцыі кастрычніцкага (1926 г.) пленума ЦК КП (б)Б па дакладзе «Аб нацыянальнай палітыцы», з якім выступіў першы сакратар ЦК Кампартыі рэспублікі А. Крыніцкі, гэтыя «элементы» разглядалі беларусізацыю як гвалтоўнае насаджэнне беларускай культуры, у першую чаргу беларускай мовы, і пагарджанне інтарэсамі і запатрабаваннямі іншых нацыянальнасцей.

Такія погляды знайшлі адлюстраванне ў некаторых тагачасных публікацыях і выступленнях. Напрыклад, у часопісе «Революция и культура» (1929. № 2) дацэнт БДУ І. Славін паспрабаваў абгрунтаваць іх тэарэтычна. Ён пісаў, што большасць пралетарыяту Савецкай Беларусі па сваім складзе з'яўляецца яўрэйскім і адсюль рабіў выснову, што вылучэнне беларусаў на кіруючыя пасады ў партыйны і дзяржаўны апарат паслабляе дыктатуру пралетарыяту і ўзмацняе ўплыў сялянства ў грамадска-палітычным жыцці рэспублікі.

Гэтыя ідэі ў завуаляванай форме праводзілі ў сваіх друкаваных і вусных выступленнях С. Агурскі — загадчык Гістпарта ЦК КП(б)Б, А. Вайнштэйн — былы лідэр Бунда, намеснік старшыні СНК БССР, А. Бейлін — загадчык яўрбюро ЦК КП(б)Б, М. Фрумкіна і С. Кацэнбоген — намеснікі наркома асветы БССР і іншыя былыя бундаўцы. Такім чынам, было імкненне групы асоб пад прыкрыццем ілжыва вытлумачанага палажэння аб дыктатуры пралетарыяту вывесці з важнейшых партыйных, дзяржаўных і навуковых пасад беларускія кадры.

9 мая 1929 г. у Мінск прыбыла камісія ЦК ВКП(б) на чале з У. Затонскім (старшынёй ЦКК КП(б)У) для вывучэння практыкі правядзення нацыянальнай палітыкі на Беларусі. У канцы чэрвеня 1929 г. на пасяджэнні Бюро ЦК КП(б) Б У. Затонскі паведаміў пра вынікі работы камісіі. Аднак выявілася, што яна не высветліла ўсе пытанні практыкі ажыццяўлення нацпалітыкі ў рэспубліцы, і ў першую чаргу звязаных са становішчам яўрэйскага і польскага насельніцтва.

У інфармацыі У. Затонскага на Бюро ЦК КП(б)Б, а таксама ў ягоным дакладзе, падрыхтаваным пазней у Маскве і перададзеным у ЦКК КП(б)Б, не крытыкавалася дзейнасць АН БССР, якую ўзначальваў У. Ігнатоўскі. На пасяджэнні ЦКК ВКП(б) У. Затонскі ўзмацніў крытыку навуковых прац прэзідэнта АН БССР. Ён падтрымаў неабгрунтаваную, малакампетэнтную і вульгарызаваную крытыку работы У. Ігнатоўскага «1863 год на Беларусі», з якой выступаў на XII з'ездзе КП(б)Б (люты 1929 г.) С. Агурскі, узмацніў яе палітычныя і ідэалагічныя акцэнты.

Наступным этапам у палітычнай і навуковай дыскрэдытацыі У. Ігнатоўскага, як, між іншым, і многіх іншых дзеячаў беларускай нацыянальнай культуры і навукі, з'явіўся XIII з'езд КП(б)Б (30 мая — 12 чэрвеня 1930 г.) У адной з яго рэзалюцый было падкрэслена, што галоўнай небяспекаю ў ажыццяўленні нацпалітыкі ў рэспубліцы з'яўляецца беларускі нацыянал-дэмакратызм. Гэты тэзіс, як няправільны і супярэчлівы рашэнням X, XII і XVI з'ездаў ВКП(б), будзе адменены XIV з'ездам Кампартыі Беларусі ў студзені 1932 г. Але ў тых канкрэтных умовах гэта азначала адмаўленне ад беларусізацыі, і такі лозунг з'явіўся па сутнасці палітычнай дырэктывай для разгрому беларускай нацыянальнай інтэлігенцыі. З сярэдзіны чэрвеня 1930 г. пачаліся арышты. Так, 26 чэрвеня быў арыштаваны А. Смоліч, 14 ліпеня — А. Цвікевіч, 17 ліпеня — Я. Лёсік, 21 ліпеня — В. Ластоўскі. Да канца жніўня 1930 г. было арыштавана больш за 100 дзеячаў беларускай культуры і навукі, якія нібыта належалі да контррэвалюцыйнай нацыяналістычнай арганізацыі «Союз вызваления Беларусі» (СВБ). У сакавіку-красавіку 1931 г. 4 чалавекі былі прысуджаны да дзесяці гадоў зняволення, а 86— да пяці гадоў высылкі з Беларусі. З палітыкай беларусізацыі было пакончана радыкальна. І першай фізічнай ахвярай гэтага павароту стаў У. Ігнатоўскі. Гром у час буры не б'е ў струхлелы пень, а свае разгневаныя стрэлы скіроўвае ў самае высокае і моцнае дрэва.

20—25 кастрычніка 1930 г. пленум ЦК КП(б)Б разгледзеў пытанне «Аб чарговых задачах у нацпалітыцы», з дакладам па якім выступіў першы сакратар ЦК КП(б)Б К. Гей. Аднак абмеркаванне гэтага важнага пытання звялося, па сутнасці, да размовы пра дзейнасць «СВБ», крытыкі беларускага нацыяналізму і члена ў Бюро ЦК КП(б)Б У. Ігнатоўскага, І. Васілевіча (другі сакратар ЦК КП(б)Б) і А. Сянкевіча (загадчык агітпропа ЦК КП(б)Б). Абвінавачанні, якія ставіліся супраць У. Ігнатоўскага, будаваліся на паказаннях арыштаваных. Выступаючы на пленуме, старшыня АДПУ БССР Р. Рапапорт гаварыў: «На сённяшні дзень мы не можам сказаць, што Ігнатоўскі і Жылуновіч ведалі пра гэтую арганізацыю і ўдзельнічалі ў ёй. Не можам гэтага сказаць». Словы У. Ігнатоўскаму на пленуме не далі. Ён быў выведзены са складу Бюро і ЦК КП(б)Б. Ва ўмовах «вялікага пералому» гэта азначала не толькі канец палітычнай і навуковай кар'еры, але і ставіла яго фактычна ў становішча ізгоя ў грамадстве.

Аднак, думаецца, што лёс У. Ігнатоўскага, як і іншых яго таварышаў па партыі, грамадска-палітычнай і навуковай рабоце, быў вырашаны не на пленуме ЦК КП(б)Б, а на пасяджэнні Палітбюро ЦК ВКП(б) 15 кастрычніка 1930 г., на якім абмяркоўвалася пытанне пра «СВБ». Пленум толькі пацвердзіў прынятае рашэнне Палітбюро ЦК ВКП(б), а таксама пастанову Бюро ЦК КП(б)Б ад 18 кастрычніка 1930 г. Дарэчы, гэта пастанова з негатыўнай ацэнкай дзейнасці У. Ігнатоўскага гісторыкамі не знойдзена.

Партыйнае расследаванне справы У. Ігнатоўскага пачалося на наступны дзень пасля заканчэння работы пленума. Яно вялося ў кантэксце тых абвінавачанняў, якія былі сфармуляваны ў яго рашэнні. У сярэдзіне студзеня 1931 г. Прэзідыум і Парткалегія ЦКК КП(б)Б пастанавіла выключыць У. Ігнатоўскага з партыі «как не изжившего антипролетарского мировоззрения антисоветских партий, как сознательно проводившего в течение всего периода пребывания в партии национал-демократическую установку в своей работе, являющегося фактически кулацким агентом в партии, как обманывающего партию покаянными заявлениями, прикрывая ими продолжение своей групповой антикоммунистической деятельности в рядах КП(б) Б и как чуждого элемента, игравшего на руку нацдемовской контрреволюции». Праз тыдзень Бюро ЦК КП(б)Б зацвердзіла пастанову Прэзідыума ЦКК КП(б)Б аб выключэнні У. Ігнатоўскага з партыі.

Надуманасць і абсурднасць абвінавачанняў, элементарная непісьменнасць іх фармуліроўкі былі відавочныя. Але гэта не бянтэжыла арганізатараў расправы. Вядома ж, ніхто з іх і не мог падумаць тады, што з'яўляўся актыўным удзельнікам адной з рэпетыцый ідэйна-палітычнага і фізічнага тэрору, ахвярай якога ён сам стане ў 1937 — 1939 гг. Да слова мовіць, у 1937 — 39 гг. як «ворагі народа» былі расстраляны амаль усе партыйныя і дзяржаўныя дзеячы БССР, у тым ліку і К. Гей і Р. Рапапорт, а таксама многія следчыя, якія падрыхтавалі інсперыраваны працэс «СВБ». Тыя, што стваралі пякельную машыну смерці, самі трапілі ў яе.

Пасля выключэння з партыі У. Ігнатоўскага пачалі запрашаць на допыты ў АДПУ. У архіве КДБ БССР у 29-томнай справе аб «СВБ» ёсць машынапісны пратакол нібыта сведчых паказанняў У. Ігнатоўскага. Аднак гэты пратакол не падпісаны ні начальнікам сакрэтнага аддзела, які вёў допыт, ні У. Ігнатоўскім і не можа быць прыняты пад увагу як сапраўдны дакумент. Іншых матэрыялаў, якія б нейкім чынам пацвярджалі высунутыя супраць яго палітычныя абвінавачанні, у архіве КДБ БССР не знойдзена.

На заявы ў ЦКК ВКП(б) у лютым і сакавіку 1931 г. з просьбай аднавіць бацьку ў партыі, з якімі звяртаўся старэйшы сын Ігнатоўскага Міхаіл, адказ быў адназначны — падстаў для партыйнай рэабілітацыі няма. Такая ж рэакцыя была і на ягоны зварот да Старшыні Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР К. Варашылава ў 1956 г.

Аднаўленне ў радах КПСС былога члена Бюро ЦК КП(б)Б стала магчымым толькі на шостым годзе дэмакратызацыі савецкага грамадства. Для аб'ектыўнага перагляду сфабрыкаванай персанальнай справы У. Ігнатоўскага не хапіла смеласці і прынцыповасці нават у такіх аўтарытэтных лідэраў партыйнай арганізацыі рэспублікі, якімі з'яўляліся К. Мазураў і П. Машэраў, хоць гэтае пытанне неаднаразова ставілася вучонымі і пісьменнікамі рэспублікі. Пад магутным націскам грамадскай думкі на гэты крок рашыўся Я. Сакалоў перад адыходам з паста першага сакратара ЦК КПБ.

У. Ігнатоўскі быў адноўлены ў партыі апошнім з тых, хто праходзіў па працэсе «СВБ». У чэрвені 1988 г. судовая калегія Вярхоўнага суда БССР вызначыла: «Постановление ОГПУ БССР от 10 апреля 1931 г. в отношении В. У. Ластовского, И. Ю. Лесика и других отменить и дело производством прекратить за отсутствием в их действиях состава преступления». Былі рэабілітаваны астатнія 16 чалавек, якія праходзілі па справе «СВБ».

Шэсцьдзесят гадоў імя У. Ігнатоўскага лічылася ў чорных спісах лідэраў беларускага нацыяналізму. Увесь гэты час антыбеларускія, антынацыянальныя сілы на чале з партыйнымі функцыянерамі ад ідэалогіі, такімі, як А. Кузьмін, Ю. Смірноў, Л. Калыхан і інш., эксплуатавалі створаны ў канцы 20-х гадоў нацыяналістычны вобраз. Для падтрымання атмасферы беларусафобіі нястомна працаваў апошнія 15 гадоў доктар гістарычных навук, прафесар А. Залескі, які, як і яго папярэднік на гэтым рамястве член-карэспандэнт АПН СССР Л. Абэцэдарскі, даўно дыскрэдытаваў высокія тытулы вучонага.

Роля А. Залескага ў глумленні над дзеячамі беларускай нацыянальнай культуры і навукі аналагічная той, якую адыграў у 20 — 40-я гады Л. Бэндэ.

Прывяду толькі адзін прыклад. У папцы матэрыялаў аб партыйнай рэабілітацыі У. Ігнатоўскага з 227 машынапісных старонак 91 належыць А. Залескаму. Сярод таго шматстаронкавага квазінавуковага смецця часцей за ўсё сустракаюцца такія ярлыкі-характарыстыкі, як «главарь белорусского национализма», «махровый белорусский националист», «ярый монархист». «История никогда не простит этого преступления Всеволоду Игнатовскому!» — клікушнічаў А. Залескі ў адным са шматлікіх пісем у ЦК КПБ. Думаю, што гэтыя словы ў поўнай меры датычаць іх аўтара. Навуковыя чытанні, прысвечаныя 110-й гадавіне з дня нараджэння У. Ігнатоўскага, тыя матэрыялы, якія пра яго апублікаваны ў рэспубліканскім друку, завяршаюць ідэйна-палітычны і маральны суд гісторыі над ваяўнічымі антынацыяналынымі сіламі беларускага народа.

**Уладзімір МІХНЮК.**



У. М. Ігнатоўскі.



У. М. Ігнатоўскі ў другім радзе трэці злева сярод аўтараў часопіса «Полымя».

**Слухаў беларускую мову з вуснаў вучонага чалавека, паглыбляўся, асэнсоўваў пачутае. І мне багата і светла думалася, як думаецца пад знаёмую, глыбокага хвалявання музыку... Не збіраюся важыць нейкія ўхвальныя словы прамоўцу, але не адзначыць не магу: які ж магутны род Гарэцкіх, які нязводны!**

**МАЦІ са спеўнаю душою народа, СЫНЫ: аўтар неўміручых кніг — адзін; сусветнай славы вучоны, чыім імем названа больш за дзесяць выкапнёвых жывёл і раслін, — другі. Унучка яе — чуе на гук і навобмацак роднае слова і так падае яго, што возьмеш скупыя староннія ўспамінаў і не адарвешся; унукі — шырокай дарогі навукоўцы: акадэмік з паўтысячай прац і публікацый, той самы, чыя прамова ўзрушыла на гаворку, і доктар навук, складальнік вядомага буквара. Нарэшце, самы малодшы ўнук, якога мы назаўсёды запомнілі па жменьцы лістоў да маці, напісаных перад нявыкапанай юнацкай магілай...**

**Гэта не адхіленне ў гісторыю роду, гэта сцверджанне таго, якія рады нараджае родная зямля для свае моцы, красы і працягу жыцця. Такіх асілкаў спараджаюць усе землі свету і трымаюцца на іх, пакуль не народзяць новых. Гэта не значыць, што гасне сіла і слава адышоўшых: яны свецяць, як і свяцілі, толькі з далейшае адлегласці. Цвёрда веру ў гэта, нават цяпер, калі на рэспубліку абрынулася вынішчальнае ліха, якое не параўнаць з набегамі ханаў і нават з трохгадовым лютаваннем фашыстаў. Ліха страшнае! Мы не ведаем сапраўдных памераў акупацыі радыенуклідаў. Ні сапраўдных памераў выпрабаванняў, якія нам пагражаюць сёння і заўтра, не ведаем, як ратавацца і што ратаваць ад наслання. А робім выгляд бадзёры, вяртаючыся ў пакінутыя сядзібы самі ды яшчэ з дзецьмі, каб раслі і вучыліся на бацькоўскіх мясцінах. Або адсяляем людзей так марудна, што радыяцыя размазваецца па ўсёй рэспубліцы.**

**Разгортваючы перад вачыма лёс часу, лёс народа, працу літаратуры, зараз няцяжка сумецца: а як жа і што ж рабіць далей? Не абы-як і не абы-што, а справу сапраўдную, выбіць найбольшую колькасць магчымых для сябе ВОКАЎ, як казалі малыя ў вёсцы, ці ачкоў, як прапануюць слоўнікі, для выжывання, для хады далей.**

**Шукаючы ў гэтым скрутным становішчы выйсце для сябе, падумаў, што адзіны ратунак — знайсці новую мерку патрабавальнасці, яшчэ не ўжываную, але, канечне, патрэбную. Магчыма, гэты занятак ужо не па гадах. Тады будзем рабіць намаганні, каб захаваць памяць пра сейбітаў неўміручага дабра.**

*Максім ЛУЖАНІН*

# ДУХОЎНАЯ АПАНТАНАСЦЬ

**Род Гарэцкіх**

## Як я апошні раз бачыў Максіма Гарэцкага

Не так даўно, здаецца, на вечары ў яго памяць, слухаў, што яму, магутнаму пісьменніку нашай зямлі, неўзабаве было б 90. І сам гаварыў тое самае.

А тым часам, амаль векавой адлегласці Максіма Гарэцкага ад нас сягонняшніх, ці нас ад яго, не адчуваецца.

Ну, няхай гэта — шчаслівая ўласцівасць творчасці класічнай, інакш кажучы, сучаснай кожнаму часу. Тады чаму не адчуваю адлегласці ўзростаў? Сустракаліся больш за паўстагоддзя таму, а ён нібыта стаіць поруч, размаўляе з блазнюкамі як з раўнёю, беспамылкова выбіраючы адпаведны ўзросту і кругаглядам слухачоў узровень гаворкі. Каб было цікава для абодвух бакоў, падвышаўся меншы да большага, мудрэйшага, цешачы і яго маладою непасрэднасцю.

І тут... Паўвекавая заслона адлегласці як быццам разышлася ў бакі, і я ўбачыў яго, узнавіў час, уявіў месца, прыгадаў пару дня апошняй сустрэчы.

Так, год 1930, сярэдзіна лета, крыху пасля паўдня. Мы стаім пры скрыжаванні тагачасных вуліц Ленінскай і Савецкай, непадалёк ад будынка польскага консульства, плячыма да вітрыны сталоўкі № 3, дзе ў нэпаўскія часы быў вядомы рэстаран Фрыца.

Максім Іванавіч кіраваўся ад Камсамольскай, відаць, з Дома пісьменніка. Я пакланіўся яму і быў запынены працягнутай для прывітання рукою.

Гарэцкі выглядаў асвежана, лёгкай загарай было пазначана аблічча, звычайна бледнаватае ад няўпыннай работы дый нядужасці — абзывалася імперыялістычная вайна.

— Ці не патупалі дзе пад цяплейшым сонцам? — само сарвалася пытанне.

Максім Іванавіч скрыжаваў пальцы:

— Так, і ў чысцейшым паветры.

Са слоў патыхнула гаркота: адразу ўспомнілася калатня ў літаратурных колах, наскокі белапапаўскай крытыкі, бязглуздыя абвінавачанні, размежаванне «Узвышша» на «правае» і на «левае» крыло, нязгоды ў «Полымі».

— Ці надоўга акрыяў? — Максім Іванавіч нядбала махнуў рукою: — Цэлы месяц апекавалася мною дбайная жанчына, — ён назваў татарскае імя, — гэта назва санаторыі (тады пісалі: санаторыя і часопісь), дзе мяне падлечвалі. Бывалі ў тых краях?

Да санаторыяў мне не ўдавалася дапасці, гады са два назад трапіў у Сімеіз, дзе мясцовыя татары выпусцілі пакойчык у мазанцы на схіле гары Кошка, а мясцовы пансіянат прыняў на харчаванне. Потым па Ялце патупаў крыху...

— Ці хоць свайго цёзку адведалі? — перапыніў Максім Іванавіч.

Так, адшукаў магілу Багдановіча. Апалоў і паліў, як наказвала Цёця Уладзя, пасеянае ёю жыта на курганку паэта...

Расказваў і раптам адчуў няёмкасць: чаму ўзнікла такое недаверлівае пытанне? Можа, ён думае, што я трымаюся пісаніны малапісьменных, далёкіх ад сумленнасці крытыкаў і літаратараў, якія не саромеліся гаварыць на паэта абы-што — сімваліст, упаднік і г. д., паўтараць не хочацца. А можа, і гэта бянтэжыла яшчэ горш, Гарэцкі асуджае, лічыць за хлапечую самаўпэўненасць тое, што я адрокся ўласнага імені і прыняў Багдановічава. Я ж зрабіў гэта, адчуўшы тое імя сваім, так прыпаў да сэрца «Вянок». А тут поруч стаіць жывы магутны Максім і як быццам упікае за блазнюкоўскі крок.

Гарэцкі, відавочна, прыкмеціў маю зніякавеласць і пашкадаваў. Сказаў, што нядаўна гартаў часопіс «Узвышша» з маімі вершамі. І гэта ўсцешыла. Дарма, што не пахваліў і не паганіў, а ўсё ж спыніў на хвіліну вока. Магчыма, таму і кінутыя ім словы засталіся ў памяці аж дасюль.

Наогул жа гаворка не надта звязвалася. Сонца станавілася на паўдня, і гарачыня ад непаастываўшых за ноч камяніц патыхала з новай сілай. Дрэваў на галоўных вуліцах тады не расло, у цянёк не схаваешся, пыльны ветрык закручваў на бруку слабыя слупкі смецця, ганяў падварушаныя коламі рамізнікаў і фурманак з бочкамі піва папяровыя зрыўкі.

**Стаяць тут, тым больш размаўляць, вялікай прыемнасці не было, аднак Максім Іванавіч не спяшаўся на адыход, зноў-такі, мусіць, каб не пакрыўдзіць запыненага суразмоўніка. Паволі расказваў, у якім добрым месцы зараз жыве — каля Людаманта, так называлася прыгарадная мясціна з зялёнымі берагамі і чыстаю вадою дазаводскае плыні ракі. Купацца можна, сынок пялёхацца любіць, і даросламу па пахі.**

**Гарэцкі гаварыў, спрабуючы жартаваць, хоць жарты, думалася, не вельмі пасавалі да гэтага чалавека, у кожным разе нельга было ўявіць, каб ён так самазабыўна і бесклапотна рагатаў, як, скажам, Кузьма Чорны, каторы раз сочачы за цудоўным акцёрам Грыгонісам у мальераўскім «Мешчаніне».**

**Тым больш не ўспрымалася паджартоўванне Максіма Іванавіча зараз, яно відавочна не адпавядала ягонаму ўнутранаму стану. Нейкі клопат так і прабіваўся праз вонкавы супакой і смутную абыякавасць аблічча.**

Ці не праз гэта на момант прыгадалася наша папярэдняя сустрэча амаль на гэтым жа месцы, толькі ў іншую пару. Тады наша літаратура зазнала першую высылку. Алесю Дудару, аўтару некалькіх зборнікаў вершаў і кусліненькай крытыкі, давялося на некалькі год перабрацца, праўда, не так і далёка, усяго ў Смаленск. За што? Называлі верш «Пасеклі наш край», адзін гэты радок — і толькі — перадавалі знаёмыя, паўтарала крытыка.

З таго даволі даўняга здарэння пачалася першая вулічная размова з Максімам Іванавічам. Магчыма, і ён ведаў не больш пра тое, што напісалася і было пакарана, аднак асуджэння не ўтаіў. І сам выпадак, на яго думку, непрыстойны, дый аўтар верша... Ці верыць яго недвухсэнсоўнаму вершу — пратэсту супраць рыжскай мяжы, ці артыкульцам пад псеўданімам Тодар Глыбоцкі, дзе абгнюшваліся і звінавачваліся ў неіснуючых грахах таленавітыя і сумленныя літаратары... Дзівакі, няспелыя мазгі могуць палічыць яго за нацыянальнага пакутніка ды, чаго добрага, рынуцца наследаваць... Каму яно патрэбна, такое ўшанаванне, апрача непрыемнасцей нічога не зычыць...

Не шмат тады сказаў Максім Іванавіч, яшчэ менш я зразумеў ягоныя словы. Але ж абодва разы ён запыняў мяне сам, і трэба ж, на адным і тым жа месцы, першы абзываўся, пэўна ж, нешта змушала яго на гэта.

Зусім блізка бачу сціплую постаць сярод вулічнага тлуму, бацькоўскія паднятыя на мяне вочы, чую пытанне, дзе збіраюся летаваць. Пэўных намераў у мяне яшчэ не было, адказаў, што спакушаюць на Дзвіну, павандраваць па Віцебшчыне, зірнуць у вокны яе шматлікіх азёр.

Максім Іванавіч ажывіўся, назваў некалькі памятных мясцін у Полацку і пашкадаваў: на ягоную радзіму, Амсціслаўшчыну, нешта не цягне вандроўнікаў. Хоць у самім Амсціславе ёсць чаго паглядзець, ёсць што ўспомніць, хоць бы Трубяцкую разню. А наогул — край беднаваты. Маўляў, вы, случакі, у параўнанні з нашымі сялянамі — фальваркоўцы.

Пасля пацікавіўся, з кім намерваюся ехаць. Пачуўшы ў адказ прозвішча паэта, з якім тады сябравалася, Максім Іванавіч чамусьці спытаў, ці не лепей падавацца дадому, аднаму, без сяброў.

— А я ў сваёй вёсцы набыўся. Да людскай ракі паўдня тупаць, і лесу блізка няма.

Максім Іванавіч запытальна зірнуў на мяне. Маўляў, што ты, хлопец! Некалі будзеш рады на роднай мясціне кожны каменьчык рукамі абцерці.

Гэта чыталася ў ягоным позірку, але не сказаў, толькі напамянуў Скарынавы словы пра пчалу, што прылятае ў свой вулей.

А як мне было сказаць яму, што «вулля» таго ў мяне няма: хата трухлее пад гнілым дахам без догляду. Маці туліцца каля замужняй сястры, а бацька памёр. Застудзіў і без таго хворыя лёгкія, вяртаючыся дадому з-пад Старых Дарог, дзе яго, разгледзеўшыся, высадзілі з эшалона раскулачаных. Выпусцілі разам з некалькімі селавымі суседзямі, што таксама і на серадняко̆ў не цягнулі — па гектару зямлі на душу, у нашай сям'і разам з сенажаццю было гектары чатыры-пяць.

Максім Іванавіч яшчэ раз пахваліў месца, куды перабраўся жыць, пажадаў мне добрай дарогі і развітаўся, я ж чамусьці не рушыў у сваю дарогу, а глядзеў яму ўслед, пакуль не схавалася светлая кепачка за кутнім домам.

Гаворка ўзрушыла. Сапраўды, чалавек на добрых пятнаццаць год старэйшы, у каго за плячыма веданне скарбаў культуры свету, кнігі прозы вышэй чым першага класу, гісторыя нашай літаратуры і многа-многа ўсяго, у чым выяўляўся ягоны «самародны талент» (Карскі). І ён, як раўню, як «цёзку» адсутнага Максіма, спыняе на вуліцы лайдакаватага юнака! І гаворыць, не даючы адчуць ані кроплі са сваіх шматлікіх пераваг, не дазваляючы, аднак, сабе адступіцца ад уласнай думкі, як ён рабіў заўсёды, або пайсці за якім-небудзь іншым поглядам.

Адна толькі з пераваг, калі можна так сказаць, не ўспомнілася тады — сумнае ўласнае дасведчанне: Гарэцкі пабыў за лукішскімі кратамі, пакаштаваў і высылкі з Вільні ў Дзвінск.

Чалавек з пранікнёным розумам даследчыка, надораны чулым сэрцам пісьменніка, прадчуваў многа чаго благога, над галавой згусалі хмары, захады да гэтага рабіў і мясцовы друк і цэнтральны. І хацеў перасцерагчы маладых.

Калі я вярнуўся з падарожжа, Гарэцкага ўжо нельга было павітаць на вуліцы.

## Сяброўства Гаўрылы Іванавіча

Напэўна, захваляваліся б і вы, калі б давялося разгарнуць гэтую кнігу. Гадоў ёй за 60, старонак мае 170, а паасобнікаў выйшла ўсяго 25. Нават у наш не дужа спрыяльны для беларускамоўных выданняў час такі тыраж падаецца больш чым сціплым.

Гэтая акалічнасць, амаль поўная недаступнасць кнігі чытачу і даследчыку, абавязвае хоць бы да кароткага напамінку пра адну з ранніх, але вельмі каштоўных работ сусветна вядомага, чыім імем — паўтару — ахрышчана больш за дзесятак выкапняў, беларускага акадэміка.

Выйшла яна ў 1928 годзе, грыф: «Інстытут Беларускае культуры, аддзел прыроды і гаспадаркі», назва «Межы Заходняй Беларусі ў Польшчы (нацыянальны склад насельніцтва Заходняй Беларусі)», аўтар — Гаўрыла Іванавіч Гарэцкі.

Сур'ёзны вучоны, хоць яму ў часе напісання недацягвала да трыццаці, сам акрэсліў, куды і на што, на якую мэту скіравана ягоная работа, якая рупасць падымала і непакоіла яго. Скажам сваімі словамі: трэба было замацаваць у народнай памяці нядаўнюю гістарычную несправядлівасць, кару без віны — раз'яднанасць на невядома як доўгі, магчыма, назаўсёдны тэрмін, што спасцігла наш народ. Больш за гэта: трэба было сцвердзіць неад'емнае права народа жыць адною дужай сям'ёю, у адной дзяржаве, жыць і дыхаць, як людзям самім жадаецца.

Паслухаем аўтара: «Разуменне «Заходняя Беларусь» толькі тады будзе лёгічна адмежавана ад іншых геаграфічных разуменняў, калі будзе адмежавана ад іншых абшараў Польшчы сама тэрыторыя Заходняй Беларусі».

І далей: «...гістарычныя і эканамічныя межы разам амаль супадаюць з межамі нацыянальнымі, асабліва на захадзе Беларусі, аднак прымат нацыянальнай мяжы, мяжы этнаграфічнай, павінен быць высунуты з усёй катэгарычнасцю. Нацыянальныя межы ў гісторыі найноўшага часу мелі і пэўна захаваюць надалей досыць значны ўплыў». Да гэтага сказа зроблена спасылка на кнігу Р. Умястоўскага «Палітычныя, натуральныя і абаронныя межы ў часе вайны і міру», Кракаў, 1925, с. 106: «Межы сягонняшніх, багатых чалавецкімі рэсурсамі дзяржаў становяць народная свядомасць і воля, а ўжо ў нязначнай ступені фізіяграфічныя ўмовы. Проста наадварот таму, як вялося праз вякі».

Спасылка дадзена дробным шрыфтам і па-польску, давялося перакласці самому, каб не рабіць клопату чытачам.

Апрача навуковай каштоўнасці, кніга мае вялікую цікавасць, і вось у чым. Мой паасобнік уводзіць нас у моцную садружнасць маладой навукі і маладой паэзіі, у цёплае сябраванне слова і думкі двух сваіх выдатных прадстаўнікоў. Пра гэта скажацца пазней, а пакуль пазнаёмімся крыху з самой працай.

**Кніга абапіраецца на мноства разнамоўных крыніц, найбольш рускіх і польскіх, адзначаючы праўдзівыя меркаванні накшталт: «Межавая рыса Рыжскага трактату... мае розныя дадзеныя для стабілізацыі ў якасці сталай мяжы»** (Römer). **Аднак малады вучоны, з фактамі ў руках, смела спрачаецца з некаторымі (Э. Ромэр, М. Хандэльштам), бо сапраўды, як змоўчаць, калі чытаеш, нібы «Беларусь не складае суцэльнае геаграфічнае краявіднае індывідуальнасці», нібы «беларусаў, як адзінага народу з нацыянальнай свядомасцю, не бачым». І далей «...у бальшавіцкія часы літаратурная мова слаба даходзіць да вёскі і ў малой ступені з'яўляецца чыннікам, што уніфікуе мову народу, хутчэй ёсць пасрэднікам, які робіць лягчэйшай яе русіфікацыю»,— гэта ўсё з артыкула М. Хандэльштама.**

З належнай пашанай ставіцца аўтар да прац Е. Р. Раманава і Я. Ф. Карскага, не забываючыся на мудрую выснову: «Адзінае, што больш упарта трымаецца ў беларусаў,— гэта іх мова», але выказвае сумненне ва ўгрунтаванні акадэмікам паўднёвых межаў Гарадзеншчыны і Міншчыны.

Следам за беларускім тэкстам ідзе рэферат работы па-англійску, падаюцца двухмоўныя табліцы і картаграмы з весткамі пра колькасць беларускага насельніцтва ў розных паветах і валасцях Заходняй Беларусі. Гэта частка, як на маё вока, найбольш цікавая і працаёмкая ў кнізе, бо змяшчае ў сабе весткі пра этнаграфічныя межы беларускіх паселішчаў і выяўляе іх нацыянальны склад, аселасць асноўнай нацыянальнасці, рост ці спад асобных катэгорый жыхароў у тым ці іншым раёне.

Грунтуюцца згаданыя табліцы і картаграмы на дадзеных многіх перапісаў: 1897, 1916 (нямецкі), 1919 і 1921 (польскія) гадоў.

У канцы даецца спіс валасцей (гмін) у 239 паветах, з якіх складалася тэрыторыя Заходняй Беларусі ў Польшчы.

Не прымаючы на веру статыстыкі з яе неабходнасцю выходзіць на так званыя «сярэднія» лічбы — піў не піў, а па пятнаццаць літраў на кожную душу ўсё роўна прыпадае,— я чытаў знойдзеную кніжку, адклаўшы сенсацыйныя, не выданыя дасюль у нас мемуары і найноўшыя цуды дэтэктыўнага жанру.

Ну як адарвешся, скажам, ад табліц, калі ў іх следам за графою «Беларусы» ідзе дзіўная, здавалася б, нацыянальнасць «Тутэйшыя» (Кобрынскі, Слонімскі і іншыя паветы). Мала таго, што абзываецца тут бізуном і дубцамі ўсечаная ў свядомасць чалавеку асцярога — не прызнавацца, на ўсякі выпадак, хто ты ёсць, або валіць свае нават самыя запаветныя думкі на чые-небудзь плечы, на «таго» («не скажа «я мяркую», а ўсё — «як **той** казаў»). Тут ужо дыхае выхадам на літаратуру. «Тутэйшых» хапала і ў горадзе і ў вёсцы. Не звяліся яны ў першыя пасля-рэвалюцыйныя гады, пракідаюцца густавата і ў нашым дні, цураючыся роднай мовы, баючыся чым-небудзь сцвердзіць сябе нават перад пагрозай вымірання нацыі ад чарнобыльскай бяды.


ІНСТЫТУТ БЕЛАРУСКАЕ КУЛЬТУРЫ

МЕЖЫ ЗАХОДНЯЙ БЕЛАРУСІ Ў ПОЛЬШЧЫ

G. GORETSKY

FRONTIERS OF WEST-WHITE-RUTHENIA (BIELARUS) in POLAND

Куды як шырока глядзеў і далёка бачыў Янка Купала! Усё роўна як знайшлі мы ягоныя «Тутэйшыя», толькі праз многа дзесяткаў год вызваліліся яны з попеку, затрымалі не хто іншы, як таксама «тутэйшыя» — сакратары і міністры, гісторыкі і мовазнаўцы — усіх не папішаш.

Аднак бліжэй да пачатага. На тытульным аркушы кнігі надпіс:

«Любаму майму Уладзіку. Гурык. 31.III.29. Менск».

Хоць і трывалым чорным, можна сказаць, невынішчальным,— ведаю, сам карыстаўся! — чарнілам напісаны, а моцна зліняці дарчыя слоўцы, як-ніяк столькі гадоў пратрывалі на паперы, але ж утрывалі і выразна прамаўляюць да нас.

Гурык — памяншальнае, ласкавае імя Гаўрылы Іванавіча, мусіць, спадарожнічала яму з маленства, звярталіся так маці і старэйшы брат пазней і зусім, здаецца, нядаўна малады голас гукнуў аднойчы: «Дзядзька Гурык, да тэлефону!»

Мусіць, так мякка хацелася звяртацца да яго, бо сам гэты чалавек меў вялікую ласку да людзей. Аднойчы, успамінае пляменніца, ад яго збег шафёр, прыхапіўшы гадзіннік. «Ці не ўсё роўна, у чыёй кішэні гадзіннік будзе, галоўнае, каб цікаў!» — суцешыў сябе Гаўрыла Іванавіч.

Уладзік — гэта Уладзімір Дубоўка, паэт, чый голас так багата абяцаў не аднаму нашаму дому і так бязлітасна быў заглушаны на лагерныя і высылачныя дзесяцігоддзі. «Уладзік» казала на яго добрая палавіна Мінска і многія масквічы. Маці, доўгі час жывучы ў Маскве, не страціла распеўных інтанацый прынарачанскай гаворкі, яна хораша і працяжна вымаўляла самое ж дадзенае імечка, і хіба што пры гасцях толькі чужых ці малазнаёмых, збівалася на зусім нязвыклае «Ва-водзя».

Такія звароты адзін да аднаго сведчаць не проста пра дружбу, тут зусім відавочна душэўнасць, блізкасць духоўная, калі хочаце.

**Доказаў таму — не шукаць. Яны амаль аднагодкі, у адзін час жылі і вучыліся ў Маскве: Гарэцкі — у Ціміразеўскай акадэміі, Дубоўка — у Брусаўскім інстытуце. Сустракацца было дзе, шырока працавалі на зближэнне студэнцкія зямляцтвы, вабіла светлымі талентамі драматычная студыя, будучы Коласаўскі тэатр. Ядналі і зямляцкія страты: заўчасна загінулі студэнт Паўлюк Жук і сястра Гарэцкіх Ганна, якой Дубоўка прысвяціў верш. Напэўна, і яна, як усе ў гэтым магутным родзе, выказвала немалыя здольнасці, бо патрапіла ж у тыя нялёгкія дваццатыя, амсціслаўскай дзяўчынай быўшы, на навуку ў Маскве. Дый светлай душы, відаць, была, бо помнілі яе да апошніх сваіх дзён браты, прыгадвалі ў лістах. Максім Іванавіч, едучы з Вяцкае высылкі цераз Маскву, адразу завітаў на сястрыну магілу.**

**Напэўна ж сябры, Уладзік і Гурык, мелі магчымасць пазней бачыцца і ў Беларусі.**

Гарэцкі па сканчэнні навукі вёў кафедру ў Горках, потым стаяў на чале Інстытута ў Мінску, удзельнічаў у рабоце тагачаснага ЦВК, і на адной з сесій выказаў думку, што свінія — **паваждай**, які можа вывесці краіну на сусветны рынак. Прыводжу меркаванне па памяці, а багацькаўскае слоўца перадаю дакладна.

Дубоўка заставаўся жыць у Маскве, але часта прыязджаў у Мінск. Ён уваходзіў у кіраўніцтва «Маладняка», праводзіў першы пленум і з'езд гэтага аб'яднання (1925 г.), выходзіў з яго (1926 г.), наладжваў работу новага літаратурнага згуртавання «Узвышша» (1926—1930 гг.), часта друкаваўся і быў адным з рэдактараў аднайменнага часопіса.

Вось у адзін з прыездаў у беларускую сталіцу, як відаць, і падараваў яму Гаўрыла Іванавіч свежую кніжку. Кніжныя падарункі былі і раней. З Польшчы ён прывёз кнігі вершаў У. Бранеўскага і К. Вежыньскага, а таксама «Сёмую восень» і «Сакрат у танцы» Юльяна Тувіма. Вельмі зграбна выглядалі зборнікі: на адменнай паперы, у крэмавых, цісненых золатам вокладках і са старажытным знакам агню на вокладцы. Мы ведалі, гэты сімвал прысабачылі фашысты, і крыху бочыліся ад кніжак. Толькі ўзяліся чытаць, усеўладная сіла паэзіі перамагла часовую боязь. Кніжкі тыя нейкім цудам перахаваліся, вярнуліся да мяне пасля вайны.

Так, адзін сябар, пабыўшы за мяжою і зрабіўшы пэўныя здабыткі для ўзбагачэння ведамі сябе, турбаваўся, каб не заставацца ў няведанні дружбак, каб лепшае з поступу літаратуры суседняга народа не мінула і яго.

Выбар прывезеных кніжак сведчыў аб літаратурных густах і нахілах таго, хто іх падараваў. Любасць да літаратуры раслумачыць не цяжка. Па-першае, да яднання з прыродай, крыніцай, адкуль бяруць пачатак усе мастацтвы, абавязвала прафесія, выбраная не абы-як, а паводле душэўнага складу. Поруч ішоў уплыў і прыклад старэйшага брата Максіма, ужо акрэсленага напэўна літаратара, складанне з ім першага руска-беларускага слоўніка (Смаленск, 1918), пашырэнне культурных даляглядаў праз чытанне.

Нарэшце — Купала! У яго гасцяваў, слухаў, вучыўся разумець лёсы краіны, разам з Максімам Іванавічам жывучы ў Смаленску. І многа чаго зразумеў, запомніў назаўсёды. Нездарма ж да кнігі «Межы Заходняй Беларусі ў Польшчы» быў дапісаны своеасаблівы эпілог — вершаваны!

На апошняй старонцы беларускага тэксту, паведаміўшы, што польскае асадніцтва складала зусім нязначны працэнт у насельніцтве Заходняй Беларусі (ад 0,02% у Ашмянскім і Свянцянскім паветах да 0,98 у Навагрудскім і 1,14% у Баранавіцкім), аўтар робіць вывад:*

«Заходняя Беларусь на многія дзесяткі гадоў, захавае свой асноўны беларускі характар, нягледзячы на ўсе перашкоды для развіцця беларускае культуры ў Польшчы. Межы Заходняй Беларусі будуць набіраць усё большай трываласці і нязьменнасьці».



Гэтыя два сказы падкрэслены фіялетавым чарнілам, ніжэй тым жа колерам цвёрдая рука запісала верш:

**Я веру такжа — межаў не сатруць,**
**ня знішчаць люду нашага ніколі.**
**Гады зьмяніліся, гады ідуць,**
**а беларусам шапацяць таполі.**

**Гайсае крыўда праз палеткі скрозь,**
**сьляды глыбокія нам крыўда пакідае.**
**Але,— калі надзея ў сэрцы ёсьць,—**
**напэўна доля будзе нам другая.**

**Растуць працоўнае сям'і сыны,**
**вянок радзімы аздабляюць дзеяй.**
**І новыя... Цяпер мы не адны...**
**Але й цяпер — найлепшай Ты надзеяй.**

**Пяройдзе павадка і шума ўся.**
**лягчэй дыхнуць натруджаныя грудзі,**
**Зірні — ўжо нават час задумаўся:**
**ідзе, плыве, а ўсё ня нікнуць людзі...**

**Ул. Дубоўка.**

**21 верасня 1929 г.**
**Масква.**

Так перагукнуліся два братнія галасы: адзін — з Мінска, другі — з Масквы. Чутны ў іх нязломная вера і парыванне ў будучыню, яна бачылася ў разняволенай — без здзекаў і змусаў — краіне, радзіме вольна распрастаўшага плечы народа, для якога на ўсю моц будуць працаваць яны.

Не ўсе надзеі спраўджваюцца. Ці не былі гэтыя перазовы апошнімі? Недзе прыкладна праз год абодва сябры пачалі адбываць — за добрыя свае справы і намеры! — незаслужанае пакаранне. Дубоўка — высылку, паступова ператвораную ў амаль пажыццёвую катаргу, Гарэцкі — спецлагер у Карэліі, на які яму была «ласкава» заменена «вышэйшая мера пакарання».

**Нельга не ўспамянуць памяць Якуба Коласа і яго турботу пра лёс гэтых людзей, «шчодра адараваных талентамі», як ён гаварыў. Дубоўку ён бачыў на чале айчыннай паэзіі, а Гарэцкага — на чале нашай навукі, Прэзідэнтам Акадэміі Навук. Расказваў, што пасля абароны дысертацыі вучоныя масквічы гаварылі Гаўрылу Іванавічу: каб толькі можна было, мы б прысудзілі вам ступень у дзвюх галінах навукі адразу: па геалогіі і па геаграфіі. І Колас стукаў ва ўсе дзверы, куды толькі мог, дамагаўся свайго, аднак Гаўрылу Іванавічу нават у Мінску не выпала тады застацца, вярнуўся ў свой падмаскоўны Дзедаўск. Адтуль ён прыслаў мне тоўсты том: «Аллювий великих антропогеновых прарек Русской равнины». Каюся, не адолеў кнігі, пры ўсім жаданні, з прычыны суцэльнай свае непадкаванасці ў гэтых справах. Затое надпіс хаваю, прывесці яго цалкам саромеюся: перахваліў мяне Гаўрыла Іванавіч! Залічыў у «першаствальнікі паэтычнай гісторыі беларускіх рэк» («На новых прасторах»), дадаў, што ў яго наступных манаграфіях «навуковаю прозаю выказваецца тыя ж думкі і пачуцці...»**

Не ведаю, як складаў яму падзяку, дзе ўпершыню пашанавала паціснуць руку. Бачыцца даводзілася мала, хоць і хацелася часам паслухаць ціхі голас, сустрэць удумлівы позірк, які сягнуў так глыбока ў мінулае вялікіх Волгі і Дняпра, а значыць і народа. Бо людзі ж заўсёды жылі на водных артэрыях зямлі, гарнуліся да іх, карміліся з іх ласкі і дагледалі, а не загнюшвалі, як навыператкі стараемся мы ў асобе перайначвальнікаў і спрамляльшчыкаў плыняў, паваротчыкаў спрадвечных рэк.

Аднак даводзілася хапаць сябе за руку: куды ты? Адбіраць час, трывожыць думку, турбаваць руку, якая намервалася занатаваць яе... І яшчэ адно стрымлівала: Гаўрыла Іванавіч, гасцінны гаспадар, меў звычку праводзіць сваіх гасцей не да парога кватэры, а на двор, ды яшчэ і прытрымаць дзверцы машыны, стоячы на ветры з голай галавою...

Ці бачыліся і як сустрэліся Гарэцкі з Дубоўкам, ужо спрэс абеленыя ад выдуманых правін? Сведчанні таму ёсць. Хоць бы фота сяброў ва ўспамінах Г. Гарэцкай («ЛіМ», 1988, № 48). Пазначаныя часам і дарогамі, але свежыя, улагоджаныя сустрэчай абліччы. Так і здаецца, абдымуць адзін аднаго з сардэчным «браток», запісаным у Дубоўкавым аўтографе на картцы.

Дадам яшчэ пра колішні Коласаў клопат. Аднойчы, проста ў дзвярах, ён сустрэў мяне патрабаваннем:

— Чытай! Пазнаеш, хто піша?

Я часта чытаў рукапісы і ведаў Дубоўкаву руку, зірнуўшы раз, ужо не забудзеш. На дзвюх старонках школьнага сшытка ён здолеў змясціць усю нялёгкую гісторыю сваіх пакут, вандровак за 17 гадоў, бяда ягоная выразна вырастала са стрыманых слоў, чуўся глухі стогн: «Памажы, дзядзька!» Але ён помачы не прасіў, проста расказваў, што такое крыўда і не павінна быць на белым свеце.

— Я ўжо адпісаў яму. І яшчэ куды трэба паслаў — тэрміновою поштай,— сказаў Колас, не чакаючы, пакуль дачытаю.

Вось як быў уражаны! Так перажываў наноў усю глыбіню няшчасця, што спасцігшае паэта і літаратуру, што, хвіліны не марудзячы, адразу ж рушыў на дапамогу чалавеку, бо той ужо недзе ждаў-ждаў ды ўсе жданкі паеў ждучы, глядзеў-глядзеў ды ўсе вочы пасляпіў выглядаючы, як гаварылі ў народзе.

Вось і ўсё, што было недаказана пра адно сяброўства, а больш пэўна — братэрства.

* Ва ўсіх цытатах захавана аўтарская пунктуацыя і тагачасны правапіс. На жаль, няма магчымасці перадаць значкі для дыфтонгаў **дз** і **дж**, з якімі напісаны верш Ул. Дубоўкі і друкаваўся часопіс «Узвышша».

# Навучанне і Адраджэнне

На сумесным пасяджэнні рады Саюза пісьменнікаў Беларусі і Міністэрства народнай адукацыі БССР, якое адбылося ў Доме літаратара, разгледжана пытанне: «Выкладанне беларускай мовы і літаратуры ў школе: стан, новыя падыходы і канцэпцыі». Пасяджэнне адкрыў і вёў старшыня рады СП В. Зуёнак. З дакладам выступіў кандыдат філалагічных навук А. Яскевіч. У сваім слове ён галоўную ўвагу звярнуў на неабходнасць гуманізацыі і гуманітарызацыі выхавання ў школе, вяртання да нацыянальных вытокаў. Зварот нацыі да сваёй мовы і літаратуры патрабуе стварыць Кнігу (зборны вобраз) нацыянальных, духоўных пачаткаў, якая б грэла чалавека ад школьнай парты да самага яго скону. На думку А. Яскевіча, сучасныя падручнікі сацыялагізаваныя і нават палітызаваныя. Сёння гэтага неабходна пазбаўляцца, бо сацыялагізаваная педагогіка — адмаўленне самога жыцця. Чалавечую ж душу нельга выхоўваць на адмаўленні таго, што было раней. Прамоўца меў на ўвазе найперш вялікае гістарычнае мінулае беларускага народа, усёй нацыі. А. Яскевіч спаслаўся на вопыт падручнікаў, напісаных народным песняром Якубам Коласам. Чаму б да гэтага вопыту не звярнуцца сёння?

Першы намеснік міністра народнай адукацыі БССР Л. Сухнат, адзначаючы плённасць кантактаў асобных пісьменнікаў з міністэрствам, са школамі, з выдавецтвам «Народная асвета» (называліся прозвішчы А. Клышкі, Р. Шкрабы, В. Віткі, А. Рагулі, Б. Сачанкі, А. Мальдзіса, В. Чамярыцкага, У. Ліпскага і іншых), заўважыла, што гэтыя сувязі павінны пашырацца. У выступленні Л. Сухнат закраналіся праблемы пераходу школ рэспублікі на беларускую мову навучання, выдання падручнікаў і выпуску літаратуры ў серыі «Школьная бібліятэка».

**Шырокае кола праблем ахапіў Б. Сачанка, але ўсе яны зводзіліся да аднаго: тое, як будзе выконвацца Закон аб мовах у Беларускай ССР, які плён прынясе ён, залежыць ад кожнага: і ад пісьменнікаў, і ад настаўнікаў, і ад міністэрскіх работнікаў. Аднак хацелася б чакаць большых зрухаў. Міністэрства народнай адукацыі — пакуль што адзінае міністэрства ў рэспубліцы, якое распрацавала доўгатэрміновую праграму па канкрэтнаму выкананню Закона. Сваю праграму распрацоўвае і ЦК Кампартыі Беларусі, а вось у Міністэрстве юстыцыі прытрымліваюцца іншай думкі. Маўляў, не можа быць ніякага прымусу. Але пра які прымус, вынікае з выступлення Б. Сачанкі, можа ісці гаворка, калі народу вяртаецца тое, на што ён мае права. Нельга забываць: не загаворыць па-беларуску ўвесь народ, не загавораць і дзеці. Як і іншыя прамоўцы, Б. Сачанка гаварыў пра падрыхтоўку новых беларускамоўных падручнікаў, новае, грунтоўнае і аб'ектыўнае асвятленне грамадска-палітычных і літаратурна-мастацкіх працэсаў 20—30-х гадоў.**

На пасяджэнні выступілі таксама пісьменнікі М. Грынчык, У. Калеснік, А. Клышка, А. Лойка, А. Руцкая, загадчык лабараторыі праблем літаратурнай адукацыі Беларускага навукова-даследчага інстытута адукацыі М. Лазарук, начальнік упраўлення дашкольнага выхавання Міністэрства народнай адукацыі БССР Т. Карасцялёва, галоўны рэдактар выдавецтва «Народная асвета» В. Жарыкаў.

**НАШ КАР.**

## У РЭДАКЦЫЮ «ЛіМа»

**У маёй публікацыі «Быць ідэйна-свядомымі» («ЛіМ», № 19 за 10 мая 1991 г.) памылкова названа прозвішча А. Петрашкевіча, які ў 1974 годзе не з'яўляўся загадчыкам аддзела культуры ЦК КПБ. На гэтай пасадзе ў той час працаваў С. Марцалеў.**

**Прашу апублікаваць папраўку.**

***Славамір АНТАНОВІЧ.***

